№ 45 (202) 8 лістапада 2000 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

## Памерла Мод...

Колькі разоў яна памірала на сцэне, і вось цяпер — у жыцьці. Катастрофа здарылася 12 кастрычніка: інсульт, шпіталь, безнадзейнасьць... А 6 лістапада надышоў непазьбежны фінал. І цяпер мы мусім жыць без Стэфаніі Станюты. Цяжка! У свае 95 гадоў яна была маяком – адзіным, і якім жа каштоўным аскепкам клясычнае акторскае традыцыі, носьбітамі якой былі Галіна Макарава, і Рахленка, і Ржэцкая, і Глебаў-Сарокін.

Цяпер гэтая традыцыя скончылася, і, хаця нехта яшчэ самаўпэўнена прэтэндуе на яе спадчыну, на дварэ зусім іншая тэатральная эпоха. Тэатар стаўся цацкаю для багатых, а нам застаецца толькі настальгічна згадваць назовы тых даўніх, амаль забытых пастановак, у якіх бліскала ў сваёй беспараўнана арыстакратычнай манеры Стэфанія Станюта. А было яшчэ кіно: 34 фільмы за няпоўныя 30 гадоў.

Адзіным домам Станюты заўжды заставаўся Купалаўскі тэатар. Яна прыйшла сюды ў 1932 г., маючы за плячыма 6 гадоў вучобы ў Беларускай драматычнай студыі пры Маскоўскім тэатры Станіслаўскага і 6 гадоў працы ў Віцебску. Тут яна сыграла свае лепшыя ролі і сустрэла сваю сапраўдную гераіню – Мод. Яны былі амаль аднагодкамі: Станюта і 79-гадовая Мод, якая жыве ў чыгуначным вагоне, крадзе аўтамабілі і ходзіць на ўсе хаўтуры, бо ведае, што ўсяму свой час, і зусім ня хоча спазьніцца на сваё пахаваньне. Тут, на хаўтурах, яна сустракае сваё каханьне – 19-гадовага багаценькага інтравэрта. Гэты хлопец – Гаральд – заляцаецца да яе і хоча зь ёй ажаніцца. Якой жа трэба быць кабетай, каб мы паверылі ў праўду гэтага каханьня! І якой трэба быць акторкай, каб удыхнуць жыцьцё ў бутафорскаўмоўнае дрэва, якое становіцца сымбалем яе душы!

У фінале п’есы Мод памірае – добраахвотна, бо ёй адной дадзена зразумець непахісныя законы быцьця. Так паміраюць на сцэне. У жыцьці ўсё інакш – болей празаічна і напэўна больш трагічна. Мод памерла... Але назаўжды засталося каханьне. А калі не каханьне, дык несьмяротная памяць аб ім.

**Юлія Андрэева**

**Мікалай Пінігін, рэжысэр:**
– Пайшла цэлая эпоха, і ня толькі тэатральная – эпоха беларускай культуры. Чалавек, які бачыў спэктаклі Меерхольда, Таірава, Станіслаўскага, вельмі адукаваны, вельмі сьвядомы. Я ніколі не забуду, як мы ехалі на таксоўцы пасьля спэктаклю "Гаральд і Мод" і яна паказвала: "А вось тут цар Мікалай ІІ гладзіў мяне па галоўцы". Гэта пайшла цэлая вялікая эпоха, і замяніць яе няма каму, няма чым.

**Віктар Манаеў, актор, выканаўца ролі Гаральда:**
– Скончылася цэлая эпоха Купалаўскага тэатру. Ёй удалося пражыць такое доўгае жыцьцё, такія цяжкія і трагічныя часы, калі такое адбывалася і зь Беларусяй, і з тэатрам, і застацца пры гэтым такім сьветлым чалавекам. Я думаю, што для Бога важней ня тое, наколькі ты таленавіты, а колькі сьвятла ты ствараеш вакол сябе, кім бы ты ні быў – артыстам ці рабочым сцэны. Яна была чалавек-сьвятло.





АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## Успамін пра Клінтана

Сымпатыі амэрыканцаў падзяліліся між Бушам і Горам. Але і той, і другі здаюцца палітыкамі другога эшалёну побач зь Білам Клінтанам. Клінтан адыходзіць малады і непераможаны. Саксафаніст, лавэлас, лібэрал, мірatворца, інтэлектуал, улюбёнец Галівуду, муж амбітнай жонкі, каханак вялікай хітрухі, першы прэзыдэнт мультымэдыйнай эры. 90-я застануцца ў гісторыі гадамі Клінтана, як 80-я былі гадамі Рэйгана, Тэтчэр і Коля, 60-я — Кенэдзі і дэ Голя, 30-я — Рузвэльта, а 20-я — Пілсудзкага. А Клінтан застанецца прэзыдэнтам, які пакланіўся Курапатам.

Служба бясьпекі не рэкамэндавала фатаграфаваць Клінтана на вуліцах Менску, абяцаючы “стральбу без папярэджаньня”. Анатоль Кляшчук зрабіў пару кадраў, але нечытэльных – менчукі вітаюць прэзыдэнта на плошчы Перамогі, тлум, ахоўнікі. Пасьля Клінтан паехаў на перамовы з кіраўнікамі краіны. Сфатаграфаваць прэзыдэнта ЗША карцела. Кляшчук ведаў, што Клінтан, магчыма, наведае таксама Курапаты. І Анатоль паехаў у Курапаты. Прыпаркаваў машыну на кальцавой і пайшоў напрасткі на курапацкую Галгофу. Выйшаў з хмызьняку на паляну і ўбачыў воддаль проста перад сабой Пазьняка і Клінтана. “Ад хваляваньня ў мяне задрыжалі рукі”, — расказвае ён.

Быў туманны зімовы дзень. У Курапатах ахоўы не хапіла, каб ачапіць увесь лес.

## Беларускі Каштуніца — сякера пад лаўкай

У мінулую суботу адбылася Соймавая канфэрэнцыя БНФ. Абмяркоўвалі сцэнар будучай прэзыдэнцкай кампаніі. Вырашылі, што кандыдат ад апазыцыі мусіць быць адзін, і назвалі крытэры, якім ён павінен адпавядаць.

Беларускі Каштуніца, паводле фронтаўскіх палітыкаў, мусіць быць незалежнікам, дэмакратам, гатовым да рэформаў, мусіць разумець ролю нацыянальнае культуры і свабодна гаварыць па-беларуску. А яшчэ — трымаць слова, мець кіраўніцкі досьвед і досьвед працы ў камандзе, быць неканфліктным, але цьвёрдым у пазыцыі, ня мець аўтарытарных рысаў. Гэта ўсё, так бы мовіць, агульныя пажаданьні, зь якімі ня стаў бы спрачацца ніхто. Хіба што сацыял-дэмакрат Статкевіч тут адпадае, бо і рысы аўтарытарныя ў яго ёсьць, і слова не стрымаў — пайшоў на мінулыя выбары, чым разбурыў свой удзел у камандзе — апазыцыйнай групе палітыкаў новай хвалі, і канфліктны — варта паказаць у тэлевізары, як крычаў на мітынгу пра «цыганскага в...ка». Прынамсі, неўраўнаважаны.

А вось наступны блёк — электаральныя характарыстыкі — непасрэдна ўступае ў канфлікт з рэальнасьцю. Інакш кажучы, калі агульным характарыстыкам больш-менш адпавядаюць усе 10-20 апазыцыйных лідэраў, дык у электаральнай частцы пачынаецца суцэльны «адсеў».

Напрыклад, кандыдат у прэзыдэнты мусіць мець мінімальны адмоўны рэйтынг. Штука цяжка вызначальная, калі ўвогуле рэйтынг апазыцыйных палітыкаў трымаецца на ўзроўні статыстычнай памылкі. А нават і тыя тры-пяць палітыкаў, што набіраюць у апытаньнях ад аднаго да трох працэнтаў, маюць пераважна адмоўны рэйтынг. Што Пазьняк, што Шушкевіч, што хто-небудзь іншы. Вызначыць жа адмоўнасьць ці станоўчасьць рэйтынгу палітыкаў, якіх увогуле ніхто ня ведае, нерэальна.

Далей: адсутнасьць падставаў для аргумэнтаванага кампрамэтаваньня. Верагодна, такой характарыстыкай валодае толькі той, хто не займаецца актыўнай публічнай і кулюарнай палітыкай, груба кажучы, ня мажацца, або зусім ня робіць памылак. Дастаткова прыгадаць, што Анатоль Лябедзька быў адным з архітэктараў-стваральнікаў цяперашняга дыктатара, альбо паказаць кадры, як Вінцук Вячорка паліць сацыюзную дамову, каб гэта стала падставай для аргумэнтаванага кампрамэтаваньня і недаверу да кандыдатаў. Каб пасьля гэтага галасаваць за іх, трэба ў першым выпадку моцна любіць Лябедзьку, у другім — мець трывалую нацыянальную сьвядомасьць. А ні першым, ні другім беларускі народ сёньня не вызначаецца.

Далей — адносныя характарыстыкі — прэзэнтабэльны выгляд і камунікабэльнасьць. Яны адносныя, бо, па-першае, вобраз караля робіць ягонае атачэньне, а па-другое, разам з ранейшымі крытэрамі гэтыя таксама не выключаюць удзелу ў выбарах старых і новых лукашэнак. Зрэшты, адзін прэтэндэнт тут адсяваецца — гэта барадаты матрос Шчукін. Напэўна, яго мелі на ўвазе іміджмэйкеры Фронту, калі думалі пра непрэзэнтабэльны выгляд.

Далей. Здольнасьць уплываць на дзяржаўны апарат. Тут могуць адпачываць усе, пра каго часта пішуць апазыцыйныя газэты і хто адназначна выказваецца супраць Лукашэнкі. На апарат здольны ўплываць той, хто выйшаў з намэнклятуры — Лявонаў або Домаш. Але першы зь іх не гаворыць па-беларуску, а другі — калгасьнік. У тым сэнсе, што, адмаўляючы партработніку Лукашэнку, з чаго б гэта галасаваць за партработніка Домаша? Калі ўжо перавыбіраць, дык абавязкова — кантрасна, чалавека зь іншымі характарыстыкамі. Каб не калгасьнік, не начальнік і каб умеў па-ангельску, напрыклад. Ёсьць яшчэ Міхаіл Чыгір — «былінны багатыр», але ён свой «намэнклятурны рэсурс» страціў на апазыцыйных прэзыдэнцкіх выбарах.

І потым, хто прыдумаў, што новага прэзыдэнта мусіць падтрымаць намэнклятура? Яна, бязвольная і безініцыятыўная, будзе галасаваць, «як усе людзі».

Працяг на старонцы 3.




# Сева Янчэўскі гатовы

## *Цырымонія здачы — 12 лістапада, у 18.00 на Акадэміі Навук падчас акцыі “Пераменаў!”*

Тыдзень таму лідэры незалежных суполак моладзі (Малады Фронт, Маладая Грамада, Моладзь АГП, Маладая Салідарнасьць, Асацыяцыя Маладых Палітыкаў, Хрысьціянска-Сацыяльны Саюз Моладзі, Асацыяцыя Маладых Прадпрымальнікаў) заклікалі сяброў БПСМ выходзіць з шэрагаў гэтае структуры і запрасілі ахвотных на акцыю «Пераменаў!», якая адбудзецца 12 лістапада ва ўсёй Беларусі.

У адным Менску ужо больш за 30 сяброў БПСМ выказалі жаданьне здацца на ласку аб'яднанага нацыянальнага руху моладзі. Кааліцыя разглядае гэтыя памкненьні як пачатак паўсюднага разлажэньня і разбурэньня дзяржаўнага 200-тысячнага монстра БПСМ. Акт урачыстага спаленьня бэпээсэмаўскіх пасьведчаньняў і ўручэньня прызоў будзе адбывацца на пачатку вулічнай Акцыі «Пераменаў!» 12 лістапада, у 18.00 ля Акадэміі Навук. Кіраўнікам райкамаў, гаркамаў, студэнцкіх і іншых камітэтаў БПСМ Кааліцыя Моладзі гарантуе ў якасьці прызоў відэакасэты зь беларускамоўнай вэрсіяй блёкбастэра «Адважнае сэрца».

У пятніцу 3 лістапада Кааліцыя Моладзі «Пераменаў!» атрымала афіцыйны адказ на наш зварот старшыні ЦК БПСМ Усевалада Янчэўскага. Зь ліста вынікае, што Сева ГАТОВЫ здацца і просіць толькі ўдакладніць парамэтры турыстычнай палаткі, якую мы прапанавалі яму наўзамен пасьведчаньня пустой «палаткі прадстаўнікоў», раен дрэйфу ў Ледавітым Акіяне і спосаб транспартаваньня на Поўнач. Напрыканцы У.Янчэўскі ўдакладняе: «Мысленно вместе. P.S. Я сур'езна».

Мы таксама на поўным сур'ёзе ўспрынялі гэтую афіцыйную заяву. Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што першы дэпутат так званай палаткі разумее ўсю нікчэмнасьць псэўдапарлямэнцкага органу і ГАТОВЫ адправіцца ў добраахвотную высылку.

Удакладняем для Ўсевалада: палатка двумясцовая, паколькі ў свой час ты як малады палітык дрэйфаваў ад Шушкевіча да Лукашэнкі. Саму палатку і квіток да Таймыру на 12.XI.2000 мы асабіста ўручым старшыні БПСМ У.Янчэўскаму 12 лістапада.

**Таццяна Алесіна, Цімох Дранчук, Кірыл Ігнацік, Алесь Карніенка, Натальля Маковік, Уладзімер Радзівончык, Павал Севярынец**

# У справе Завадзкага выйшлі на Адамовіча

Паэт і журналіст Славамір Адамовіч 3 кастрычніка вярнуўся з ЗША ў Беларусь. А ўжо тыдні праз два ім зацікавіліся сьледчыя Рэспубліканскай пракуратуры. Фармальнай падставай для выкліку Адамовіча ў пракуратуру стаў факт нападу на яго двух РНЕшнікаў у красавіку 1999 году.

Нашы крыніцы паведамляюць, што эпізод з нападам сьледства наважылася далучыць да крымінальнай справы па фактах забойства ў Беларусі вясной гэтага году азэрбайджанскай сям'і, зьнікненьня сёлета ў ліпені супрацоўніка ГРТ беларуса Зьмітра Завадзкага і забойства ў жніўні кіраўніка РНЕ ў Беларусі Глеба Самойлава. Адзін з работнікаў пракуратуры РБ заяўляе, што напад на паэта і журналіста С.Адамовіча “заказаў” нехта Валеры Ігнатовіч, былы супрацоўнік спэцпадразьдзяленьня “Алмаз”, потым – член РНЕ, які ўжо знаходзіцца пад арыштам у сувязі з вышэйпададзенымі фактамі злачынстваў. Цікава, аднак, што выканаўца “заказу” нехта Кобзар, таксама РНЕшнік, знаходзіцца на волі. За зробленую “работу” ён меўся атрымаць ад Ігнатовіча 50 нямецкіх марак.

Што да лёсу Завадзкага, то ў час допыту Адамовіча з боку сьледства прагучала сумнае меркаваньне: шанцы на тое, што тэлеапэратар ГРТ жывы, блізкія да нуля.

**Міраслаў Чантарыцкі**

### МАЛАДАФРОНТАЎЦЫ ПСУЮЦЬ КАМУНІСТАМ СЬВЯТА

Сьвята камуністам папсавалі маладафронтаўцы. 7 лістапада на камуністычным мітынгу на пл.Незалежнасьці ля помніка Леніну яны пачалі засьвістваць прамоўцаў ды скандаваць патрыятычныя лёзунгі. У гэты самы час каля помніка зьявіліся дзесяць чалавек з буйнымі літарамі на грудзёх: “Пераменаў! 12 лістапада, 18.00, Акадэмія Навук”. Яны колькі разоў выгукнулі “Пераменаў!” ды “Беларусь без камунізму!” Трафэямі маладафронтаўцаў сталіся таксама й некалькі чырвоных сьцягоў. Разгубленыя міліцыянты так і ня здолелі нікога затрымаць.

**А.К.**

### “АДВАЖНАЕ СЭРЦА” ЎВА ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ

У выходныя 18—19 лістапада па 20 рэгіянальных беларускіх каналах, апроч менскага, пакажуць фільм «Адважнае сэрца» на беларускай мове. Гэта даніна павагі змагарам Слуцкага збройнага чыну. Дамовіўся пра паказ Беларускі відэаклюб.

### ФІЛЬМ ПРА ЗАВАДЗКАГА

8 лістапада ў сераду ў 22.10 на канале ОРТ пакажуць фільм Паўла Шарамета “Дзікае паляваньне”. Шарамет спрабуе разабрацца ў таямніцы зьнікненьня апэратара Зьмітра Завадзкага.

### ГАРЫЦЬ КАСТРЫЧНІЦКАЕ СЕНА

Вечарам 31 кастрычніка ў калгасе «Кастрычніцкі» Рудабельскага (Акцябарскага) раёну згарэла 140 т сена – амаль палова з таго, што назапасілі на зіму. Работнік таго калгасу кінуў недакурак у сенасховішча. Агулам у тых краёх ужо пайшло попелам паўтысячы тонаў сена.

### МІНІ-МІС З ПАЛЕСЬСЯ

9-гадовая беларусачка Саша Шкурдоба выйграла конкурс “Мініміс сьвету”, што прайшоў у Кіеве. Жыве яна ў вёсцы Расна ля Высокага. Дзяўчынка прывезла дахаты карону са срэбра ды горнага крышталю.

### НОВЫ МОСТ У ДРЫСЕ

У Дрысе пабудавалі пантонны мост даўжынёю каля 200 м праз Заходнюю Дзьвіну. Жыхары чакалі на гэтую падзею 40 год, а на працу пайшло ўсяго некалькі дзён. Будавалі яго вайскоўцычыгуначнікі, а сьвяцілі ксёндз і поп.

### АГП – 5 ГАДОЎ

Учора Аб'яднаная Грамадзянская Партыя сьвяткавала сваё пяцігодзьдзе. Павіншаваць яе прыехаў расейскі сатырык В.Шэндзеровіч, які, як аказалася, родам з Чавусаў, але перад урачыстым канцэртам круціў усё ж свойскую “Партызанскую” гурту NRM.

### ПАЛЯКІ НАВЕДАЛІ КУРАПАТЫ

1 лістапада амбасадар Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч разам зь іншымі супрацоўнікамі амбасады ды іх сем'ямі прыехаў у Курапаты. Яны паставілі васкоўкі ля крыжоў.

### УЛАДЫ КРЫЎДЗЯЦЬ КАМУНІСТАЎ

Камуністам упершыню забаранілі прайсьціся шэсьцем па цэнтры Менску 7 лістапада. КПБ крыўдуе, што «антыдзяржаўнай апазыцыі» Мінгарвыканкам «дазваляе хадзіць нават у будні, а прыхільнікам палітыкі прэзыдэнта забараняюць нават у сьвяты».

### ВЫБАРЫ – ФАРС

Мечыслаў Грыб заявіў, што падчас кастрычніцкіх выбараў адбылося каля 80 відаў парушэньняў заканадаўства. Назіральнікі зафіксавалі больш за 5 тыс. парушэньняў. Беларускі Гельсынскі Камітэт увогуле лічыць, што маштабы парушэньняў не дазваляюць назваць выбарамі тое, што адбывалася 15 і 29 кастрычніка. Больш за 70 асобаў, што адказвалі за іх правядзеньне, учынілі крымінальныя злачынствы, уважае БГК.

### НАЛЁТ НА ГАЗЭТУ “ШАГ”

У ноч з 4 на 5 лістапада ў Баранавічах абрабавалі рэдакцыю незалежнай газэты “Шаг”. А 4-й ночы на дварэ сталі крычаць “Ратуйце”, вартаўнік адамкнуў, каб дапамагчы чалавеку, а тут на яго напалі, заламілі рукі, зьвязалі, уварваліся ў офіс. Зьнесьлі частку офіснай тэхнікі. Два месяцы таму “Шаг” зрабіўся першай штодзённай рэгіянальнай газэтай у краіне. Супрацоўнікі газэты лічаць, што гэта было ня простае абрабаваньне – налётчыкі ня надта сьпяшаліся, забіралі ня самыя дарагія прылады, а менавіта тыя, што забясьпечваюць працу газэты. Па сьведчаньні вартаўніка, на адным з злодзеяў былі вайсковыя штаны ды боты.

### СПРОБА ЎЦЁКАЎ

1 лістапада ў Берасьці вартаўнікі двума стрэламі забілі засуджанага, калі той, нечакана вызваліўшыся з кайданоў, паспрабаваў уцячы. Гэта быў грамадзянін Расеі, якога ўжо пасадзілі за рабаваньне ды падзаравалі ў вырабе фальшывых грошай.

### ЗЛАЧЫНСТВАЎ ПАМЕНЕЛА

З пачатку гэтага году ў Беларусі зьдзейсьнілі амаль 97 тыс. злачынстваў — на 0,4% менш, чым за той самы час у 1999 г. Але раскрылі толькі 70,8% злачынстваў проці леташніх 71,6%.

### ГРЫП НАБЛІЖАЕЦЦА

На Берасьцейшчыне ўжо зарэгістравалі першых хворых на грып, хоць эпідэмію чакаюць толькі ў канцы сьнежня – пачатку студзеня. Летась эпідэмія таксама пачалася на Берасьцейшчыне. Сёлета ў Беларусь прыйдуць тыя самыя вірусы — A1, A3 і B, супраць якіх маюць імунітэт тыя, хто хварэў у мінулым годзе.

### П'ЕМ МЕНЕЙ ГАРЭЛКІ І БОЛЕЙ ЧАРНІЛА

Сёлета беларусы набылі на 21% менш гарэлкі, чым летась. Але п'ем усё роўна шмат – за 9 апошніх месяцаў прадалі 150 мільёнаў 280 тысяч паўлітровых бутэлек — па 15 бутэлек моцных напояў на кожнага жыхара Апроч таго, на 24% болей прадалі вінаградных, пладова-ягадных і шампанскіх вінаў, на 6% — піва. Удзельная вага алькагольных напояў у агульным аб'ёме раздробнага гандлю ў студзені-верасні склала 15,5% (за гэты ж пэрыяд летась — 12,9).

**Падрыхтаваў Алесь Кудрыцкі паводле інфармацыі агенцтва БелаПАН**

### ВЫГАНЯЮЦЬ З ПАСАДАЎ ЗА СЕНА

Напярэдадні ў Пінску выканкам зьбіраў кіраўнікоў гарадзкіх прадпрыемстваў, каб абмеркаваць вынікі разьвіцьця гаспадаркі гораду за ... месяцаў. Сярод іншага галоўны вэртыкальшчык паабяцаў звольніць трох дырэктараў (рачнога порту, чыгуначнай станцыі ды мясцовай філіі “Беларусбанку”) не за эканамічныя паказчыкі, а за тое, што іхныя калектывы ня выканалі пляну па нарыхтоўцы кармоў для “замацаваных” за імі калгасаў.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

### *BRITISH COUNCIL* ЗАЧЫНЯЕЦЦА

Дырэктарка мясцовага аддзяленьня *British Council* спн. Натальля Дзёмчанка заявіла, што закрыцьцё сапраўды мае адбыцца (верагоднасьць – 99%) да канца гэтага фінансавага году (для Брытаніі – канец сакавіка). Структуры Брытанскае Рады скарачаюцца ня толькі ў Беларусі, а і яшчэ ў ... краінах. Вось жа, Беларусь трапіла ў лік “менш важных” краін. Усе рэсурсы фонду застануцца на месцы і будуць перададзеныя, найверагодней, у падарунак Лінгвістычнаму Ўнівэрсытэту.

### БПС СУПРАЦЬ ВІКА

3 лістапада несанкцыянаваны пікет з пратэстам супраць заявы Г.-Г.Віка наконт мэтазгоднасьці далучэньня Беларусі да Расеі, зробленай ім у Беластоку, правяла Беларуская Партыя Свабоды. А 12-й падышла невялікая калёна БПСаўцаў на чале са сп.Высоцкім, разгарнулі нацыянальны сьцяг і транспаранты з надпісамі “Молатаў-Рыбэнтроп = ВікІваноў”, “Газ(свастыка)пром-Рур(-савецкая зорачка)газ”.

Пасьля кароткай прамовы пратэсту С.Высоцкі прадэманстраваў прысутным партрэт гэтага чалавека на вокладцы апошняга нумару “Кур'еру” і разарваў яго, пасьля чаго кінуў шматкі долу дый патаптаўся па іх. Часопіс той Высоцкі паставіў у сваёй прамове на адну паліцу зь Вікам, сказаўшы: “Вось гэты чалавек, а вось тая прэса, што аб ім піша”. Міліцыянты борздзенька паадбіралі у пікетоўшчыкаў плякаты (сьцяг тыя не аддалі). Ніхто з дыпляматаў да пікету ня выйшаў.

**Язапат Змысла**



IREX-PROMEDIA

### ПАМЁР ВАСІЛЬ РУСАК

Зусім нядаўна пайшла з жыцьця выбітная асоба беларускай дыяспары ў Амэрыцы Галіна Русак. Ранічкай 29 кастрычніка адышоў у іншы сьвет і Васіль Русак, яе муж. Не перажыў сьмерці жонкі... Пахаваньне адбылося ў той аўторак. Сьветлая памяць.

# Затрыманыя

1 лістапада ў Горадні падчас сьвяткаваньня «Дзядоў» міліцыя затрымала 23 чалавекі, сярод якіх: Сьвятлана Нех, Аляксандар Міхальчык, Мікола Воран, Пятро Анісімовіч, Аксана Мілюн, Вадзім Саранчукоў, Юля Дарашкевіч, Вольга Іванова, Ірына Данілоўская, Зьміцер Іваноўскі, Зьміцер Хільмановіч, Генадзь Кургун, Віктар Кірэеў, Веслаў Біруля, Раман Рамашка, Ірына Салей, Кастусь Жынь, Аляксандр Міхальчык, Сяргей Мальчык, Ігар Бабкін, Дзяніс Івашын, Уладзімер Чартапалаў, Віктар Кірэеў. Усіх адпусьцілі, будуць судзіць.

За мінулы тыдзень за расклейваньне антыўрадавых налепак затрыманыя 11 актывістаў кааліцыі «Пераменаў», сярод якіх Раман Казакевіч, браты Вадзім і Максім Явіды, Цімох Дранчук, Алег Корбан, Міхась Царкоў, Ігар Сюльд, Алесь Атрошчанка, Лявон Юхневіч.

31 кастрычніка суд Бабруйску вынес папярэджаньне Яўгену Чапурышкіну за арганізацыю несанкцыянаванага сходу.

# Барацьба статыстаў

*"Праект дзесяцігодзьдзя" надзвычай выгадны для Беларусі, але шанцаў на ягоную рэалізацыю вобмаль*

У справе пабудовы газаправоду інтарэсы Беларусі і Ўкраіны сутыкнуліся. Кожная краіна хоча, каб новая труба пралягла на яе тэрыторыі. Інтарэсы Кіева абараняе Варшава, якая бачыць у гэтым стратэгічную карысьць. Пра Ўкраіну дбаюць таксама Злучаныя Штаты Амэрыкі. З Польшчай і ЗША мусяць лічыцца і на захадзе, і на ўсходзе Эўропы.

Менску паведаміла Масква, і на выбар, які будуць рабіць інвэстары, г.зн. Бэрлін, Парыж і Рым, ён ніяк уплываць ня можа. Зусім ня можа, таму што гэты выбар будзе рабіцца не ў Маскве, якая сама стаіць з працягнутай рукой, а інвэстарамі. Пагатоў таму, што лукашэнкаўскі Менск разглядаецца ў сьвеце як несамастойны суб'ект палітыкі. Мы хочам, каб "праект дзесяцігодзьдзя" ўзбагаціў нас, але нават ня вольныя падаць свае аргумэнты "за".

Але і Ўкраіна нагадвае ў гэтай спрэчцы хутчэй бясьсільнага назіральніка, бо на шалі можа пакласьці толькі сваю геапалітычную важнасьць.

Выбар шляху, якім пройдзе газаправод, урэшце будзе залежаць ад таго, якую краіну – Украйну ці Беларусь – інвэстары палічаць больш стабільным партнэрам.

Расея называе Ўкраіну ненадзейным супольнікам, спасылаючыся на крадзяжы газу, якімі пэрыядычна займаліся над Дняпром у крытычныя для ўкраінскай гаспадаркі моманты. Галоўны аргумэнт Расеі – убогае эканамічнае становішча нашай паўднёвай суседкі, якое, пераконваюць яны, заўжды будзе вымушаць кіеўскія ўлады ісьці на махінацыі. "Ніякіх капрызаў з боку Польшчы і Ўкраіны быць не павінна!" – з чыста маскоўскай прастэчай заявіў у Парыжы віцэ-міністар замежных справаў Расеі Іван Іваноў. У якасьці косткі Расея кідае Польшчы яе частку даходаў ад эксплюатацыі газаправоду, а Ўкраіне – заказ на вытворчасьць трубаў. Польскія даходы складуць некалькі соцень мільёнаў даляраў (віцэ-прэм'ер Польшчы Е.Штэйнгоф назваў прыведзеную У.Пуціным лічбу 900 мільёнаў "нерэальнай").

Польшча катэгарычна супраць выбару ў партнэры Беларусі, кіраванай недэмакратычным, няўстойлівым і залежным ад Расеі рэжымам. Сярод яе аргумэнтаў – нелегітымнасьць менскіх органаў улады, рашэньні якіх ня маюць поўнай сілы, юрыдычная сваволя лукашэнкаўскай адміністрацыі і яе непрадказальнасьць, а таксама драматычная сытуацыя з правамі чалавека і нацыянальных груп, якая стварае глебу для "газаправоднага тэрарызму", што ўжо праявіўся ў 1997 годзе, калі невядомае "Беларускае Вызвольнае Войска" высадзіла ў паветра газавую трубу пад Вуздою.



IREX-PROMEDIA

Аднак рэсурс польскае нязгоды абмежаваны: Расея шантажуе палякаў пэрспэктывай пабудовы трубы ў абход Польшчы па Балтыйскім моры, а Польшчы вельмі важна, каб газапровод прайшоў па яе тэрыторыі. З расейскага дурнога газу скарыстаць хочуць усе. "Нічога пра нас бяз нас!" – патрабуе Варшава. Яна хоча мець не дарадчы, а вырашальны голас у гэтай справе.

Беларусы сядзяць і маўчаць: як бы не на нашай зямлі мае пралегчы газапровод. Вось сапраўдная вага лукашэнкаўскае Беларусі на міжнароднай арэне – нуль.

Украінцы кажуць, што балтыйскі варыянт – чысты блеф. Грошай на яго ня стане і ў эўрапейцаў, ня толькі што ў "Газпрому". Зрэшты, у Кіеве ўважаюць, што і беларуска-польска-славацкі газапровод — блеф. Пабудова яго каштавала б страшных грошай, тады як украінскія транзытныя газаправоды і найбуйнейшыя ў Эўропе галіцкія газасховішчы выкарыстоўваюцца сёньня толькі на 70% прапускной магутнасьці дый лёгка паддаюцца мадэрнізацыі. Уся гэтая шуміха наконт крадзяжоў узьнятая, лічыць украінскі палітоляг Алег Соскін, каб з дапамогай эўрапейскіх краінаў дабіцца ад Кіева максымальных саступак у справе платы за транзыт, а ў ідэале – увогуле змусіць Кіеў перадаць свае газаправоды ва ўласнасьць "Газпрому". Ці, калі не "Газпрому", дык ускосна кантраляваным ім заходнеэўрапейскім кампаніям.

IREX-PROMEDIA

Кіеў, абцяжараны газавымі запазычанасьцямі і пастаўлены ў тупік, гатовы гарантаваць, што больш ніякіх крадзяжоў ня будзе. Найлепшай гарантыяй гэтаму быў бы ўдзел "Газпрому" ў кіраваньні ўкраінскай газаправоднай сыстэмай, падмацаваны перадачай расейцам некантрольнага пакету акцый украінскіх газавых кампаній. Тады б, уважаюць у Кіеве, размовы пра крадзяжы сьціхлі б, інакш "Газпрому" прыйшлося б прызнаць, што ён сам у сябе крадзе. А перадаць украінскія газаправоды ўва ўласнасьць "Газпрому" ў Кіеве адмаўляюцца. Дый ЗША ніколі на гэта не пагадзіліся б.

Пікантнасьць сытуацыі яшчэ і ў тым, што, як можна здагадацца па тых сьведчаньнях, якія пратачыліся ў прэсу, крадзяжы ажыцьцяўляліся зь лёгкай рукі Крамля. А даходы ад продажу "скамуніжджанага" паліва ішлі ня толькі ў кішэні кіеўскіх прыдзяржаўных алігархаў, але перадусім у "чорную касу" маскоўскіх газавікоў і ўрадоўцаў, абраных за грошы газавікоў.

Усё гэта прымушае моцна засумнявацца ў тым, што Беларусі сапраўды сьвеціць удзел у "праекце дзесяцігодзьдзя". А мы ўжо былі пакваліліся, што на дурня станем жыць "удвая лепей".

Зрэшты, ці паплывуць грошы за транзыт у беларускую дзяржаўную скарбонку, нават калі газ пабяжыць па нашых пясочках? Думаю, шанцаў выцыганіць іх у Беларусі не нашмат больш, чым у нейкай Смаленскай вобласьці. Слабасьць сёньняшняй беларускай улады – вось прычына. У найлепшым выпадку нам сьпішуць даўгі, якіх мы так і так ня мелі б, чым вярнуць. Так што ніякія прывалаўскія мільёны заўтра ў Беларусь не пацякуць. Хіба што Беларускаму Вызвольнаму Войску будзе дзе разьмяцца...

Усё ж выгада Беларусі ад будаўніцтва газаправоду на будучыню была б неаспрэчная.

Эканамічная: трубу будуюць адзін раз, а карыстаюцца дзесяцігодзьдзямі. І ці думала, ці знала савецкая Ўкраіна, што савецкая акупацыя пакіне ёй набытак, каштаўнейшы за вугаль Данбасу?

І геапалітычная: рэзка павысіцца зацікаўленасьць Захаду ў нашай краіне і стабільнасьці ў ёй. А.Лукашэнка наўрад ці можа разьлічваць на ўмацаваньне сваіх пазыцый з пабудовай новае трубы. Калі толькі ён не задумаў кульбіту ў сваёй палітыцы.

Выгада будзе, калі станем паўнавартаснаю нацыяй і дзяржаваю, якая будзе распараджацца сваім багацьцем.

**Барыс Тумар**

## Валадзімер Цыбулько:
# "Ніводная краіна ад транзыту ня страціла"

**Газаправодныя інтарэсы Беларусі і Ўкраіны сутыкнуліся. Якім будзе вырашэньне гэтага канфлікту? Гэткае пытаньне мы задалі дарадцу прэм'ер-міністра Ўкраіны Валадзімеру Цыбульку, вядомаму сваёй прыхільнасьцю да беларуска-ўкраінскага стратэгічнага збліжэньня.**



Валадзімер Цыбулько – паэт, празаік, аўтар кнігі "Анёлы й міты" (1998), мэнэджэр культуры (быў прадʼюсэрам шэрагу поп-выканаўцаў, у тым ліку культавага Аляксандра Панамарова), іміджмэйкер (рэклямная кампанія партыі "Рэформы і парадак" у 1997 г.). З 2000 г. – з прызначэньнем рэфарматара В.Юшчанкі прэмʼерам – дарадца прэмʼер-міністра.

— Расея, наколькі нам вядома, хацела б павялічыць экспарт газу ў Эўропу на 50%. Украінская нітка газаправоду здольная павялічыць пропуск газу на 30—50% ужо цяпер. Зь іншага боку, на пабудову новага газаправоду ў Расеі няма дастаткова сродкаў. Ёсьць і іншы аспэкт: апошнія гады здабыча газу ў самой Расеі штогод скарачалася амаль на 10% і, каб захаваць экспартны патэнцыял, Расея пераводзіла ўласных спажыўцоў з газу на мазут і вугаль. Гэта вымушае мяне трохі сумнявацца ў рэальнасьці плянаў пабудовы новага газаправоду.

**— Беларусь, па-Вашаму, набудзе ці страціць, калі газапровод праляжа па яе тэрыторыі?**

— Ад транзыту яшчэ ніводная краіна ня страціла. Транзыт – адназначны рэсурс. Усё залежыць ад таго, як ён выкарыстоўваецца. Ці ён будзе набыткам усяе нацыі, ці толькі групы людзей. Але, аднойчы пабудаваны, газапровод ужо з тэрыторыі краіны нікуды ня зьнікне і будзе крыніцаю ўзбагачэньня беларусаў у любым разе.

**— Дзьмітры Карчынскі, былы унсовец і вечны правакатар, зьбіраецца зьдзейсьніць рэвалюцыю ў Беларусі. Праўда, ён дбае не пра беларускую дэмакратыю, а пра ўкраінскі дабрабыт. Рэвалюцыйны хаос у Беларусі распужае інвэстараў, спадзяецца ён. Каштаваць рэвалюцыя будзе, паводле ягоных падлікаў, 250 тысячаў даляраў. Ягоныя напалеонаўскія пляны цешаць беларускія ўлады, іначай бы Карчынскага не запрасілі выступіць у суботняй "Панараме". Наколькі ягоныя заявы і пляны адлюстроўваюць рэальныя настроі ўкраінскіх гаспадарчых і палітычных элітаў?**

— У кожнай краіны ёсьць інтарэсы ў суседняй краіне. Карчынскі – ня рупар ураду або парлямэнцкіх палітычных сілаў. Гэта проста прыклад таго, што правакацыя, здаровая ці нездаровая, можа быць мадэльлю палітычнага існаваньня. Гэта пазыцыя ягонага асяродзьдзя. Хоць думка пра Ўкраіну як пра рэгіянальнага лідэра ходзіць у галовах украінскай эліты. Дакладней, ня думка, а мара. Гэта мара ў пэрспэктыве. Усё залежыць ад эканамічнага росту. А рост ВУП сёлета ўва Ўкраіне склаў 5%.

**— Якая краіна будзе стабільнейшаю ў пэрспэктыве, Украіна ці Беларусь?**

— Унутрана стабільнейшаю ёсьць Украіна: у нас ёсьць плянавыя падставы для эфэктыўнага і рэальнага эканамічнага росту. У нас у зямлі ёсьць рэальны ўласьнік, гэта 6 млн. грамадзян. І яны за сваю зямлю атрымліваюць рэальныя паі, якія сёлета складалі 50 даляраў у месяц – хто грашыма, хто цукрам, хто збожжам. Сёлета ўпершыню вырас абʼём сельскагаспадарчай прадукцыі і ўпершыню дзяржава перастала выдзяляць мільярд даляраў на датацыі калгасам. Нарэшце, на 36% зьменшыўся расход паліва і змазкі падчас пасяўной – тое, што ў калгасах проста раскрадалася! Бюджэтныя паступленьні сёлета вырасьлі на 48%. Вось яны – рэаліі эканамічнага аздараўленьня. Ужо цяпер сярэдні ўкраінец жыве лепш, чым сярэдні расеец.

Мы ўжо прайшлі пэўны этап, які Беларусі яшчэ трэба прайсьці.

**Гутарыў Б.Т.**

# Беларускі Каштуніца — сякера пад лаўкай

**Працяг са старонкі 1.**

Наступны крытэр — гэта аўтарытэт сярод розных, ня толькі культурніцкіх, элітаў. Добрае пажаданьне, якое фактычна дублюе патрабаваньне ня мець адмоўнага рэйтынгу.

Нарэшце, прымальнасьць для сталіцы і рэгіёнаў. Гэты крытэр напісаны з тайнай думкай якраз пра Домаша, бо якраз Домашу ён з усяго сьпісу мусіць спадабацца найбольш (хоць наўрад ці ў Гомелі з большай ахвотай будуць галасаваць за заходніка-гарадзенца, чым за менчука - закон псыхалёгіі). І тут нам раптам адкрываецца сапраўдны сэнс складаньня вышэйзгаданых характарыстыкаў. Апазыцыйныя лідэры ўскосна разважаюць над тым, якімі яны самі мусілі б быць, каб патрапіць у прэзыдэнцкае крэсла. У сьпісе крытэраў міжвольна адбілася і слабасьць, і боязь апазыцыі, яе імкненьне падбадзёрыць сябе і апраўдацца перад сабою. Што да рэальнага кандыдацтва, дык ім тут і ня пахне. Гэта як набыўшы штопар вы б заселі вывучаць інструкцыю да яго. Не таму, што ня ведаеце, як адкаркаваць бутэльку, а таму, што ўсяляк адцягваеце гэты момант. Прычына — у негатовасьці апазыцыі да таго, каб узяць уладу ў краіне, у глыбокай унутранай звычцы да гэтай сваёй апазыцыйнасьці, якую цяжка, а, па вялікім рахунку, і ня хочацца пераадольваць. Гэта як кінуць курыць. І трэба было б, але ж пакуль нішто не прыпёрла. Дык і няма навошта.

Беларускі народ, калі б яму далі прагаласаваць свабодна, наўрад ці будзе кіравацца нейкім сьпісам крытэраў. Як ні проста гэта гучыць, але выбіраць ён будзе душою. Пры гэтым ва ўяўленьні сваім ён будзе падстаўляць прапанаваныя яму вобразы кандыдатаў — да Лукашэнкі — і параўноўваць. Гэта і будзе галоўны крытэры выбару. Ці выйграе апанэнт у такім параўнаньні, ці за гэткага хочацца прагаласаваць болей, чым за цяперашняга. Наўрад ці ў такім «душэўным» параўнаньні выйграе нехта з вышэйназваных прэтэндэнтаў. І спадар Грушавы побач з Лукашэнкам будзе выглядаць кандыдатам няясным, непразрыстым, незразумелым. Кажуць, што яго хацела б Нямеччына. Зрэшты, і пра Лукашэнку так кажуць. Толькі ж гэтым разам схаваць свае інтрыгі немцам будзе нашмат цяжэй, бо ў недэмакратычнай краіне такія «штукі» навідавоку, калі яны робяцца ў апазыцыйным лягеры.

Што да франтаўскага сьпісу, дык ён паказвае, што сярод дзясяткі-дваццаткі цяперашніх апазыцыйных лідэраў беларускага Каштуніцы няма. Каштуніца — у другім эшалёне, сярод тых, чые кандыдатуры шырака не абмяркоўваюцца. Самае галоўнае, што ён ёсьць і, дарэчы, найлепшым чынам адпавядае ўсім згаданым крытэрам. Пытаньне — ці здолее абʼяднаная апазыцыя яго разгледзець і вылучыць.

**Алесь Кебік**

з Расеі пра Расею

# Таямніца "Курску"



*А можа, улады жадаюць схаваць праўду пра аварыю?*

Дзеля чаго кіраўніцтва флёту праігнаравала інфармацыю ад нарвэскіх сэйсмолягаў, якія 12 жніўня каля 11.30 зарэгістравалі два моцныя выбухі ў Баранцавым моры? Чаму нарвэжцы заўважылі іх здалёк, а расейскія караблі, што знаходзіліся ў самым раёне аварыі, іх нібыта не адзначылі?

Адказ просты – кіраўніцтва ВМФ "перанесла" аварыю на 23.30, дзякуючы чаму доўгія рапарты ў Крэмль набылі вельмі прыстойны выгляд. Выратавальная апэрацыя пачалася нібыта адразу пасьля катастрофы. На паперы "Курск" адшукалі ўмэнт, а не амаль праз суткі пасьля катастрофы. І, што самае важнае, сам прэзыдэнт "адразу" даведаўся пра тое, што здарылася з субмарынай.

Апублікаваны тэкст цыдулкі, якую адшукалі ў кішэні капітан-лейтэнанта Дзьмітрыя Калесьнікава, камандзіра сёмага адсеку, пацьвярджае, што нарвэжцы мелі рацыю. Але немагчыма нават больш-менш падрабязна даведацца, што менавіта Калесьнікаў напісаў. Спачатку ваеннае кіраўніцтва казала, што Калесьнікаў напісаў дзьве цыдулкі – службовую і невялікі ліст да жонкі Вольгі. Потым яны зрабілі заяву, што ёсьць толькі ліст, вельмі асабісты, і таму яго аддадуць жонцы, а публікаваць ня будуць. Але й Вользе да гэтага часу не паказалі ні арыгіналу, ні копіі таго, што перад сьмерцю напісаў муж. Мауляў, ліст рассыпаецца ў мэтлух, і зь ім трэба абыходзіцца вельмі асьцярожна, бо ён зьяўляецца важным доказам у сьледзтве па справе катастрофы.

Дзеля чаго нырцам загадалі замкнуць уваходы ў іншыя адсекі і працягваць пошукі толькі ў трэцім, хоць з цыдулкі вынікала, што шукаць маракоў трэба ў кармавой частцы? Дый камандаваньне з самага пачатку ня раз цьвердзіла, што выбух зьнішчыў цэлы ўсіх тых падводнікаў, што былі ў першых пяцёх адсеках.

Адказ знайсьці лёгка. У другім і трэцім адсеках сканцэнтравана тое, што складае таямніцу: дакумэнты, коды, шыфры. Што б ні казалі кіраўнікі флёту, расейская грамадзкая думка ім ня верыць і верыць цяпер ня будзе. І ўсе правыя маскоўскія газэты кажуць генэралам: вы высылаеце нырцоў не на пошукі целаў, вы шукаеце нешта сакрэтнае.

А што патаемнага можа хаваць "Курск"? Магчыма, зусім не шыфравальныя машыны ці карабельны дзёньнік. Ня выключана, што галоўная таямніца ў тым, што сама субмарына была збудаваная такім чынам, што была марской труною на атамным паліве, у якой ня дзейнічае аніводнае выратавальнае прыстасаваньне, дзе нават апошні адсек, які на выпадак катастрофы павінен быў ператварыцца ў надзейны схоў для экіпажу, робіцца пасткай для маракоў.

Можа, менавіта гэта ўлады хаваюць ад нас, замыкаючы наглуха кармавыя адсекі "Курску"? І мы будзем і будзем упарта задаваць гэтае пытаньне. І нас не прымусіш замаўчаць. Хіба што ўлады – як сказаў Уладзімер Пуцін у інтэрвію французкай газэце "Фігаро" – сапраўды возьмуць бізун ды раз і назаўжды добра дадуць незалежным мэдыям...

**Андрэй Чаркізаў**

## Ілюзія недарэмнай сьмерці

Ствараецца ўражаньне, што расейскія мас-мэдыі ў суаўтарстве з вайскоўцамі ды чыноўнікамі спрабуюць напісаць вострасюжэтны раман "Трагедыя "Курску". Некаторыя дэталі зьместу пакуль толькі абмяркоўваюцца. Так, вайскоўцы ніяк ня могуць вырашыць, чыя субмарына пратараніла "Курск" — ангельская ці амэрыканская. Відаць, тэорыя пра сутыкненьне з сухагрузам была ня вельмі ўдалай. Не такія ўжо й добрыя падлодкі ў тых натаўцаў — хоць субмарына-прывід і здолела незаўважна падабрацца да "Курску", затапіць яго ды нябачна зьнікнуць, але пакінула-ткі алейную пляму на паверхні мора. Пільныя расейскія вайскоўцы яе (пляму, не падлодку) заўважылі ды асаромілі на ўвесь сьвет заходніх гора-канструктараў, чые субмарыны так неабачліва пакідаюць за сабой сьляды. Канал РТР зрабіў з апэрацыі выратаваньня тэлешоў. Хвалі, вецер, мільёны гледачоў. Для шчасьлівага фіналу не ставала толькі жывых падводнікаў. Вышэйшае знайшлі – на экранах зьявіўся працяг тэлешоў "Эвакуацыя целаў маракоў". Падводнікаў ужо няма, а выратаваньне працягваецца. Галоўны акцэнт на словы "ўзьнялі на паверхню", "перадалі родным" Маракі на зямлі — ілюзія посьпеху "Курск" патапілі замежнікі – ілюзія недарэмнай сьмерці. "Нягледзячы на тое, што экіпажу няма ў жывых, мы й зараз робім усё магчымае..." – ілюзія невінаватасьці.

**Алесь Кудрыцкі**

Юры Сьвірко

# Калідор падсьледнага

*Павал Барадзін хоча праклaсьці праз Беларусь новую транзытную магістраль*

Ужываныя (або, як кажуць расейцы, "б/у") кіраўнікі прэзыдэнцкіх справаў памяняліся ролямі. Мясцовы заўгас Іван Ціцянкоў паехаў рабіць грошы ў Маскве, а яго-ны расейскі калега па шчасьці Павал Барадзін, які стаў дзяржаўным сакратаром пакуль фантомнае саюзнае дзяржавы Беларусі ды Расеі, усё больш прыглядаецца да Менску.

"У сёлетнім бюджэце Саюзу з 2 мільярдаў 230 мільёнаў расейскіх рублёў толькі 2% пойдуць на патрэбы непасрэдна чыноўнага апарату", — паскардзіўся беларускім журналістам у Маскве спадар Барадзін, якога такі стан рэчаў відавочна не задавальняе. Каб падправіць сваё фінансавае становішча, ён хоча праклaсьці праз Беларусь новы транзытны калідор.

"Транспартны калідор, за які мяне шмат крытыкуюць і які многім здаецца фантастычным, — не мая асабістая ідэя, мне яе прапанoўшь сусьветна вядомыя фірмы, якія добра пралічылі ўсю выгаду праекту", — зазначыў сп.Барадзін, на арышт якога яшчэ ў студзені 2000 году быў выдадзены ордэр жэнэўскае пракуратуры.

"Ордэр выдаў сьледчы судзьдзя Даніэль Дэво. Мы абвінавачваем Барадзіна ў адмываньні грошай тут у Жэнэве, а не ў карупцыі ў Расеі", — распавёў мне Бэрнар Бэртуса, генэральны пракурор швайцарскага кантону Жэнэва.

Паводле яго-ных словаў, швайцарскія фірмы "*Mabetex*" і "*Mercata*", што займаліся рэканструкцыяй Крамля за панаваньня там Барыса Ельцына ды ягонага заўгаса Паўла Барадзіна, перадалі розным расейскім чыноўнікам вельмі вялікія сумы так званых камісійных.

"Пра Барадзіна мы ведаем вельмі шмат. Ён атрымаў надта вялікія сумы грошай", — заявіў спадар Бэртуса й дадаў: "Агульная сума замарожаных сродкаў па справах фірмаў "*Mabetex*" і "*Mercata*" складае 65 мільёнаў даляраў, але я не магу ў інтарэсах сьледзтва сказаць, якая частка гэтае сумы належыць Паўлу Барадзіну".

Аднак агенцтва "Ю.С.Ньюс" атрымала зьвесткі, што на жэнэўскіх банкаўскіх рахунках, якія кантраляваліся спадаром Барадзіным, замарожаныя 11 мільёнаў даляраў. Цікава, што саюзны дзяржсакратар абяцаў падаць на пракуратуру Жэнэвы ў суд за паклёп, але потым пра ягоную позву ніхто нічога ня чуў. Ніякае афіцыйнае рэакцыі не было й на чэрвеньскае інтэрвію Бэрнара Бэртусы, надрукаванае ў газэце "Народная воля", дзе ён распавёў пра крымінальную справу супраць галоўнага чыноўніка саюзнае дзяржавы.

Цяпер жа спадар Барадзін пакрыўдзіўся на расейскія тэлеканалы за паведамленьні пра фінансаваньне ім ельцынскае "сям'і" ды зноў абяцае: "Я буду судзіцца наконт гэтага з НТВ ды РТР. Я не кашалёк Сям'і, я да Сям'і адносінаў ня меў, у мяне ёсьць толькі свая сям'я. Я прыйшоў у Крэмль у 93-м, тут былі бруд і смурод, а сёньняшнюю прыгажосьць вы можаце бачыць самі. І ў саюзнай дзяржаве мы пачнем такую ж будоўлю".



IREX-PROMEDIA

Павал Барадзін

Будоўля, відаць, будзе не адна, хоць нават міністар транспарту Беларусі Аляксандар Лукашоў сказаў на прэсавай канфэрэнцыі, што ня ведае, дзе адшукаць на будаўніцтва прапанаванага крамлёўскім летуценьнікам транспартнага калідору такія вялізныя грошы, а гаворка вядзецца пра мільярды даляраў.

Павал Барадзін падзяліўся яшчэ адным праектам стагодзьдзя – пераводам саюзнага парлямэнту ў Пецярбург. "Наконт будаўніцтва парлямэнцкага цэнтру ў Санкт-Пецярбургу на мяне выйшла дужа буйная рэзьлтарская кампанія з гадавым абаротам 24 мільярды даляраў і гадавым прыбыткам 1 мільярд даляраў", — сказаў ён. Але ў Менску Аляксандар Лукашэнка, адказваючы на маё пытаньне, якія выбары ў Беларусі будуць наступнымі – прэзыдэнцкія ці ў саюзны парлямэнт, — заявіў, што менавіта прэзыдэнцкія. Значыць, саюзнага парлямэнту ня будзе прынамсі яшчэ год, хоць найбольш верагодна, што яго ня будзе ніколі.

Жэнэўская ж пракуратура гатовая расьследаваць справу былога памагатага Барыса Ельцына хоць два гады. "Але калі быць аптымістам, дык нам зусім не давядзецца займацца справай сп.Барадзіна. Калі ён будзе асуджаны ў Расеі, нам ня трэба будзе рабіць гэтага ў Швайцарыі", — сказаў генэральны пракурор Бэрнар Бэртуса. Я спытаў яго таксама, ці лічыць ён цяперашняга дзяржсакратара беларуска-расейскае саюзнае дзяржавы міжнародным чыноўнікам з адпаведным статусам. "Мяне гэта не хвалюе. Ён ня мае тут ніякага імунітэту. Гэта мела б значэньне, калі б ён меў такі імунітэт у Швайцарыі, але тут іншы выпадак", — адказаў спадар Бэртуса. Паводле яго-ных словаў, ордэр на арышт можа дзейнічаць толькі на тэрыторыі Швайцарыі, а можа і ўва ўсёй Эўропе, і ўва ўсім сьвеце. Калі судзьдзя выдае такі ордэр, ён не раскрывае ягонага тыпу.

Цікавымі падаюцца наступныя словы галоўнага жэнэўскага пракурора: "Сьледзтва яшчэ поўнасьцю ня скончана, бо справа мае замежныя адгалінаваньні. Я не магу зараз сказаць, якія яшчэ краіны ўцягнутыя ў гэтую справу, бо пакуль мы ня маем усіх дакумэнтаў". Магчыма, і Беларусь ужо трапіла ў сеткі крамлёўскіх рэстаўратараў. Тут я маю на ўвазе толькі былыя справы Паўла Барадзіна. Бо ў новых ягоных праектах Беларусь пакуль яшчэ фігуруе.

Праект транспартнага калідору будзе абмяркоўвацца 14 лістапада на паседжаньні саюзнага выканкаму ў Маскве. Ці будзе гэтая дата потым адзначацца як "дзень Барадзіна"? Хто ведае... Мабыць, адзначаць гэты дзень потым будуць і ў замежных пракуратурах – у новых крымінальных справах.



# Гары і Гарэцкі

## У Вільні адкрылі мэмарыяльную дошку на доме, дзе правеў маленства францускі пісьменьнік Рамэн Гары

Надоечы ў Вільні зьявілася яшчэ адна новая мэмарыяльная табліца, з брунатнага мармуру. Надпісы па-літоўску й па-француску сьведчаць, што ў гэтым доме нумар 16 на колішняй Вялікай Пагулянцы з 1917-га да 27-га году жыў славуты францускі пісьменьнік і дыплямат Рамэн Гары, а тады маленькі Раманчык Касеў са сваёй *«maman Nina»*. Гэтыя гады ён у раманах “Абяцаньне на досьвітку” і “Эўрапейскае выхаваньне” зрабіў здабыткам сусьветнае літаратурнае клясыкі, у якую сам увайшоў ажно пад двума імёнамі – Рамэна Гары й Эміля Ажара. «Паляк з расейскім акцэнтам», «расейскі француз», «расейска-літоўскі жыд»... якіх толькі цэтлікаў не напрышчаплялі яму крытыкі й дасьледчыкі.

«Двор дому №16 па вуліцы Вялікая Пагулянка здаваўся мне вялізарнай арэнаю, на якой я засвойваў майстэрства глядыятара, рыхтуючыся да будучых баталіяў. Патрапіўшы сюды праз старую браму, вы бачылі пасярод двара агромністую крушню цэглы – рэшткі заводу боепрыпасаў, узарванага партызанамі падчас патрыятычных баёў паміж польскімі й літоўскімі войскамі; крыху далей – дрывотня й вялікая прастора, зарослая крапівой, на якой я здабываў самыя слаўныя перамогі ў сваім жыцьці. Далей, за высокай агароджаю, цягнуліся сады. У двор выходзілі дамы, што стаялі на дзьвюх суседніх вуліцах. Направа былі паветкі, у якія я часта забіраўся па страсе, рассунуўшы пару дошак. Жыхары скарыстоўвалі гэтыя павеці для перахоўваньня мэблі, яны былі забітыя куфрамі й валізамі, якія я багавейна адчыняў. Разам з пахам нафталіну ад іх патыхала загадкавым жыцьцём старамодных рэчаў. Як зачараваны, я гадзінамі праседжваў сярод знойдзеных скарбаў, раскіданых на падлозе, нібы пасьля крушэньня карабля...”

Тут, на Пагулянцы, мала зьмянілася з тых гадоў. Адно што няма цяпер тых паветак. Але атмасфэра старое Вільні засталася.

У Вільні ў той час рабіліся сапраўды грандыёзныя рэчы. Паводле твораў Гары літаральна гэта прасачыць немагчыма – ён апісвае сьвет свайго маленства. Але магчыма па творах Максіма Гарэцкага, напрыклад, у артыкуле «Смаленск-Менск-Вільня»:

«Пасьля панаваньня немцаў Вільня спусьцела, людзей было мала, конка не хадзіла, фурманоў не відаць, гандляры керанак ня хочуць браць, усё надта дорага, а хлеба і зусім не дастаць. У савецкіх установах чулася найбольш польская й літоўская мова, на вуліцах – польская і жыдоўская, а калі я зварочваўся да газэтніка, фурмана, нумарнога ў гатэлі па-беларуску, дык яны кідалі мову польскую ці расейскую і гаварылі па-беларуску. Тым часам белыя былі недалёка: станцыі за тры ад Вільні ці бліжэй. Іх то адганялі, то яны ізноў бліжэй падсоўваліся. Над Вільняю лёталі часта аэрапляны, кідалі, як мне прыходзілася чуць ад людзей, праклямацыі з заклікам бунтавацца супроць Саветаў. Усюды было шмат шаптуноў; шапталі самае фантастычнае...»

Рамэн Гары са сваёй маці патрапілі спачатку ў літоўскую Вільню, а затым акурат у савецкую, у Літоўска-Беларускую ССР, якая скончылася паходам Люцыяна Жалігоўскага і стала польскай. Ад тых трывогаў, якім Гарэцкі быў сьведамы сьведка, у Гары застаўся адно цьмяны ўспамін. Матчына ўсьмешка давала малому Гары адчуваньне бездакорнае чысьціні й абароненасьці. Ягоная Вільня – гэта сонечны горад дзіцячых летуценьняў: «Кожную раніцу пад адзінаццаць гадзін маці ўбірала мяне ў найлепшыя строі, шафёр адчыняў дзьверку, мы сядалі ў машыну і цягам пары гадзін аўтамабіль з адкрытым верхам катаў нас па горадзе, дастаўляючы ва ўсе людныя месцы, дзе зьбіралася «прыстойная публіка»: у Рудніцкую кавярню, у батанічны сад і гэтак далей...»

Земавіт Фэдэцкі, перакладчык і крытык, цяперашні рэдактар аддзелу крытыкі варшаўскага часопіса *«Twórczość»*, – адзін з тых людзей, што яшчэ маглі памятаць тую віленскую эпоху. А мо й самога Гары. Як быў малы, сп.Фэдэцкі жыў па суседзтву з Гары, на рагу Пагулянкі й Тэатральнай, каля Польскага тэатру. Ён уважае, што напісанае Гары не дае дакладнага вобразу Вільні. Ані гораду, ані тых колішніх часоў.

І праўда, вобраз гораду маленства – вельмі асабісты. Для нас важна ўбачыць тое канкрэтнае адзінства часу і месца вачыма розных сьведкаў. І такую магчымасьць дае нам Мацей Мышка, ад імя якога Максім Гарэцкі вядзе расповед у сваім ра-



мане «Віленскія камунары»:

«Вільня, як вядома, — самы прыгожы горад у сьвеце. У самым цэнтры гораду, там, дзе бурлівая Вялейка ўліваецца ў шырока-плаўную Вяльлю, стаіць высачэзная, круглая замкавая гара – як вялізарная капа сена. Кожны князь, ці княгіня, ці хоць гетман, каб праславіцца, абавязкова будавалі ў Вільні прыгожую старынную царкву альбо касьцёл, пра што цяпер пішуць усе энцыкляпэдыі ва ўсім сьвеце. Напрыклад, другая жонка Вітаўта, Ганна, княгіня Смаленская, збудавала касьцёл Сьвятой Ганны – у чыстым гатыцкім стылі, чырвоны, цагляны. Кажуць, што нават Напалеон разявіў рот на гэтае дзіва. Ён так залюбаваўся, што сказаў: «Каб мая сіла, узяў бы яго на далоньку і перанес бы яго ў Парыж». Энцыкляпэдыі пра гэта нічога ня пішуць, а ў Вільні гэта вядома кожнаму хлапчуку».

Гары, як і Гарэцкі, меў немалы досьвед, каб трапна ахарактарызаваць этнічную фізыяномію гораду. Прынамсі, ён ведаў, чый гэта горад. Ягоны. Гары пісаў:

«Прызнацца, нават для гэткага мястэчка, як Вільня, гэтай ні літоўскай, ні польскай, ні расейскай правінцыі, дзе ў той час яшчэ не было фатаграфіі, хітрык, вынайдзены маёй маці, быў празьмерна сьмелым. І яна ў каторы раз магла змусіць нас на блуканьні па вялікіх шляхах, разам з усімі нашымі манаткамі.



Неўзабаве віленскім модніцам былі разасланыя запрашэньні на ўрачыстае адкрыцьцё «Новага дому парыскіх мадэляў» на вуліцы Вялікая Пагулянка, 16 а чацьвертай гадзіне...»

Матчын хітрык складаўся з чыстага пі-ару, пра які да вайны ў Вільні ня ведалі. Маці Ніна разаслала прыгожыя запрашэньні й зьмясьціла рэклямы ў газэтах яшчэ да таго, як яе афішаваньне напоўнілася рэальным зьместам. Але «Новы дом парыскіх мадэляў» на Вялікай Пагулянцы запрацаваў! А недзе побач пасяліўся й Мацей Мышка: «Прыехаўшы ў Вільню, я знайшоў сабе невялікі, толькі павярнуцца, але асобны пакойчык на Вялікай Пагулянцы, недалёка ад кватэры дзядзькі Туркевіча».

Людзі, што нас атачаюць, ці атачалі, кожны па-свойму, застаюцца з намі праз усё жыцьцё. Яны пакідаюць нам свой цень, якога ніхто ня мае магчымасьці пазбыцца. Што Гары, што Гарэцкага атачалі ў Вільні тысячы людзей, якія мудрагелістым чынам маюць магчымасьць трымаць і нас у абдоймах свае энэргіі. Ганна, Валянціна, Юзік, Ян... Альбо, напрыклад, нейкі пан Пякельны, пра якога Гары распавядаў і ангельскай каралеве Элізабэт II, і генэралу дэ Голю, і цэламу сьвету з трыбуны ААН...

«Сярод жыхароў дома №16, на вуліцы Вялікая Пагулянка, быў нейкі пан Пякельны. Ня ведаю, пры якіх абставінах продкі гэтага найлагаднейшага чалавека атрымалі гэткае прозьвішча, але я ўпершыню бачыў, каб прозьвішча гэтак не вязалася з чалавекам, які яго насіў... Пан Пякельны быў падобны да самотнае, пэдантычнае й заклапочанае мышы. Ён аднойчы запрасіў мяне да сябе й шчодра пачаставаў цукеркамі й рахат-лукумам... І вось нарэшце прагучала кранальная просьба, крык душы, прызнаньне ў незацуглянай і таемнай ягонай амбіцыі, што затулілася ў ціхіх мышыных грудзях...

— Дык вось! Калі ты будзеш сустракацца з уплывовымі й выбітнымі людзьмі, паабяцай, што скажаш ім...

Раптоўна дзёрзкі агонь фанабэрыі бліснуў у вачах мышы.

— Абяцай, што скажаш ім: на вуліцы Вялікая Пагулянка, у доме №16, у Вільні, жыў пан Пякельны...»

Мышка Мацей, які жыў на Пагулянцы побач, бадай, ня меў гэткіх амбіцыяў. Яму бачыліся блізкія межы агульнага шчасьця й росквіту Бацькаўшчыны. Ён не пасьпеў зазірнуць за тыя далягляды, за якімі разгарнуліся найгалоўныя падзеі нашага стагодзьдзя. Ягоны стваральнік загінуў незадоўга да таго, як была сьцертая мяжа паміж Заходняй Беларусяй і БССР і задоўга да таго, як скончылася нечуваная вайна, і Вільня, паводле зьбегу акалічнасьцяў, стала сталіцаю іншага краю. Недзе прапаў і Мацей Мышка, той самы, што напісаў раман-хроніку-нарыс пра віленскіх камунараў, рукапіс якога выпадкова быў знойдзены ў Вільні ў 1961 годзе...



Лёсы, чалавечы й літаратурны, Рамэна Гары склаліся як найлепей. Філёляг, юрыст, авіятар, дыплямат, пісьменьнік, нават кінэматаграфіст. Як дыплямат, аб'езьдзіў паўсьвету ад Балівіі да Баўгарыі. Седзячы як францускі консул у Лос-Анджэлесе, сышоўся з Галівудам, напісаў па-ангельску 6 раманаў і тузін кінасцэнароў... Слава звалілася на яго ў 1956-м, калі ён атрымаў сваю першую Ганкураўскую прэмію – найвышэйшую францускую літаратурную ўзнагароду — за раман «Карані неба»...

Яму гэтага здавалася замала. І пад канец жыцьця ён дадаў сабе яшчэ адно жыцьцё. Гэтым разам пад імем Эміля Ажара. Першы раман маладога й не вядомага нікому пісьменьніка быў апублікаваны ў 1974 годзе. Калі ж праз год наступны раман Ажара «Жыцьцё перад сабою» быў узнагароджаны Ганкураўскай прэміяй, спатрэбілася і ўцелавіць аўтара – бо паводле статуту прэміі ніхто ня можа быць узнагароджаны ёю двойчы. І ніхто ў гісторыі ня быў узнагароджаны ёю двойчы.

“Целам” Эміля Ажара стаў беларускі сваяк Рамэна Гары, Павал Паўловіч, стрыечны пляменьнік, які таксама перабраўся па вайне ў Францыю. Поль Паўловіч выдатна згуляў сваю ролю. Гэтак выдатна, што, стаўшы дзякуючы дзядзьку заможным і славутым чалавекам, галоўным рэдактарам выдавецтва “Мэркюр дэ Франс”, ён стаў лічыць сябе сапраўдным аўтарам “Жыцьця перад сабою” і ўрэшце трапіў у псыхіятрычную лякарню. Пакуль Паўловіч хаваўся ў дацкай лякарні, ягоны двайнік выдаў новую кнігу «Псэўда», дзе ў адным з герояў чытачы пазнаюць ягонага дзядзьку, Гары...

«Галоўнае – ня я. А кніга. На аўтараў усім напляваць. У лік толькі тое, што аўтар падарыў свой твор сьвету.

Я адчуваў сябе добра.

Я адчуваў сябе чысьцюткім.

Я адчуваў сябе правільным.

Я аддаў сябе Францыі, чалавецтву. Чалавецтва дало мне свой боль, а я наўзамен даў яму кнігу. Мы квітыя.

Літаратура важнейшая за нас усіх».

Мо гэта і ёсьць запавет Гары. 20 гадоў таму, 2 сьнежня 1980 году ён зрабіў сабе сьмерць. Застаўся адно Паўловіч, які разгублена адказваў на пытаньні, раскрываючы адну з найвялікшых літаратурных містыфікацыяў нашага стагодзьдзя. Таго самага стагодзьдзя, што дашчэнту зруйнавала сьвет, у якім Гары дзіцём еў слодычы ў двары дому № 16, на вуліцы Вялікая Пагулянка...



**Сяргей Харэўскі**

# Перадапошняя рэвалюцыя

## *Прычыны паразы Мілошавіча – у стойкасьці, пасьлядоўнасьці і хітрасьці сэрбскіх апазыцыянэраў*

Тыматы Гартан Эш

5 кастрычніка бялградцы захапілі будынак Скупшчыны, і ўвесь сьвет абышла карцінка: юнакі размахваюць сэрбскімі сьцягамі на бальконах палаючага парлямэнту. Тады ж, паміж 15-й і 19-й гадзінай апоўначы (людзі мэра Чачака Веліміра Іліча атрымалі заданьне пасьпець да вячэрняга выпуску навінаў у 19.30) быў захоплены і будынак дзяржаўнага тэлебачаньня, якое сэрбскія апазыцыянэры даўно называлі "ТВ-Бастыліяй". І на першы погляд гэта выглядала як добрая старая эўрапейская рэвалюцыя: штурм Зімняга! Падзеньне Бастыліі!

Усё ж гэтая рэвалюцыя не была звычайнай. Ужо хоць бы таму, што наступным вечарам пераможаны і зьнянавідны Слабадан Мілошавіч, супраць якога гэтая рэвалюцыя і была скіраваная, ня ўцёк за мяжу і не зрабіў сабе сьмерць, як яго бязбожна заклікаў разьятраны натоўп, а зьвярнуўся па тэлебачаньні да народу з прызнаньнем сваёй паразы, няйначай пераможаны на выбарах брытанскі прэм'ер.

Чым была гэтая сэрбская рэвалюцыя? Відавочна, шмат яшчэ няяснага ў гэтых сэрбскіх падзеях, якія міжволі хочацца параўноўваць з польскай "самаабмежаванай рэвалюцыяй" 1980—1981 г. і з аксамітнымі рэвалюцыямі 1989 г. у Цэнтральнай Эўропе. Але на маё першае, вельмі няпэўнае ўражаньне, падзеі ў Сэрбіі былі ўнікальна складаным спалучэньнем чатырох інгрэдыентаў: больш ці менш дэмакратычныя выбары, рэвалюцыя новага, аксамітнага тыпу, якая сама сябе абмяжоўвае, кароткі рэвалюцыйны пераварот даўнейшага тыпу і рысы старамоднай балканскай змовы.

Па-першае, выбары. Шмат хто з іншаземцаў забываецца, што Сэрбія Мілошавіча ніколі не была таталітарнай краінай накшталт Румыніі Чаўшэску. Гэта адна з галоўных прычынаў таго, што і падзеньне Мілошавіча было іншым. Так, ён быў ваенным злачынцам, які прынёс жудасныя пакуты суседзям Сэрбіі па былой Югаславіі. Але ўдома ён ня быў таталітарным дыктатарам. Ягоны рэжым быў дзіўнай мяшанкай дэмакратыі і дыктатуры: "дэмакратура".

Пры ім у Сэрбіі заўсёды была палітыка, прычым шматпартыйная. Нават сам ягоны рэжым складаўся зь дзьвюх партый: ягонай уласнай і партыі ягонай жонкі. Спрэчкі паміж ягонай посткамуністычнай Сацыялістычнай Партыяй Сэрбіі і ейнымі Аб'яднанымі Левымі Югаславіі таксама прычыніліся да развалу апірышча ягонай улады. Але апазыцыйныя партыі і палітыкі, якія прыходзяць да ўлады цяпер, улучна з Воіславам Каштуніцай, на працягу мінулага дзесяцігодзьдзя таксама бралі ўдзел у палітычным жыцьці. Так, былі рэпрэсіі паліцыі і органаў бясьпекі, ажно да палітычных забойстваў. Але былі і выбары, якія Мілошавіч стабільна выйграваў.

Чаму ён прайграў выбары 24 верасьня, якія сам прызначыў? Першая і, несумненна, найбольш прыемная частка адказу: бо іншая Сэрбія мабілізавалася, каб яго зрынуць. Зараз цяжка пераадолець дэманічны стэрэатып сэрбскае нацыі пасьля таго, што "яны" зрабілі ў Босьніі і Косаве, таму проста немагчыма перабрацьмеры, паўтараючы, што тая "іншая Сэрбія" заўсёды існавала. Былі сэрбы, якія выказваліся, пісалі і працавалі супраць Мілошавіча ад самага пачатку ягонага панаваньня. Іхнае змаганьне было інакшае, чым змаганьне дысыдэнтаў пад савецкім камунізмам, але ня менш складанае і небясьпечнае. Савецкія дысыдэнты рызыкавалі, што іх арыштуе КГБ. Сэрбскія дысыдэнты рызыкавалі, што іх застрэліць у цёмным завулку невядомы забойца. Іх было няшмат, але яны былі заўсёды.

Надзвычай важным быў студэнцкі рух "Адпор", заснаваны ў 1998 годзе як найрадыкальнейшы пераемнік студэнцкіх пратэстаў 1996 і 1997 г. Адзін з актывістаў распавёў мне, што сябры "Адпору" на сэмінарах, наладжаных заходнімі няўрадавымі арганізацыямі, вывучалі, як арганізоўваліся кампаніі па абароне правоў чалавека і акцыі грамадзкага непадпарадкаваньня ў іншых краінах, ад Марціна Лютэра Кінга да леташніх падзеяў у Харватыі. Але да гэтага досьведу яны дадалі дзясяткі ўласных ідэяў. Напрыклад, яны зьяўляліся ў доўгіх чэргах па цукар і алей у футболках з надпісам "У Сэрбіі ўсё ідзе ОК".


IREX-PROMEDIA

Па-другое, трэба сказаць, што вельмі адрозныя адна ад адной апазыцыйныя партыі ўрэшце аб'ядналіся. Праўда, найбольшая з апазыцыйных партыяў, Рух Сэрбскага Абнаўленьня Вука Драшкавіча, адмовілася далучыцца да кааліцыі. Апроч таго, прэзыдэнт Чарнагорыі Міла Джуканавіч заклікаў да байкоту выбараў, такім чынам дазволіўшы Мілошавічу фактычна забраць усе астатнія чарнагорскія галасы. І тым ня менш у Дэмакратычную Апазыцыю Сэрбіі аб'ядналіся 18 партыяў. Нашмат большай за іншыя ў кааліцыі была Дэмакратычная Партыя на чале з заслужаным, але скампрамэтаваным і непапулярным апазыцыйным лідэрам Зоранам Джынджычам.



Дык вось, трэцяй прычынай паразы Мілошавіча было тое, што Джынджыч ды іншыя здолелі прыдушыць самалюбства і звадкі і пагадзіцца на кандыдатуру Воіслава Каштуніцы, лідэра маленькай Дэмакратычнай партыі Сэрбіі, якая адкалолася ад Дэмакратычнай партыі на пачатку 1990-х. Каштуніца быў ня надта ахвочы да гэтага – ён, пакепліваючы зь сябе самога, кажа, што сам быў першым выбарцам, які сумняваўся, ісьці на выбары ці не – але выбар аказаўся бліскучы. Бо ў Каштуніцу ўнікальным чынам спалучаюцца чатыры якасьці — ён антыкамуніст, нацыяналіст, некарумпаваны і нудны.



Каштуніца ніколі ня быў сябром кампартыі. Спэцыяліст з канстытуцыйнага права і палітоляг, ён абараніў у 1970-м дысэртацыю пра ролю апазыцыі ў шматпартыйнай сыстэме. Пасьля ён перакладаў *The Federalist Papers* і аналізаваў творы Таквіля і Лока. Яго звольнілі зь Бялградзкага ўнівэрсытэту, бо ён выступаў супраць Тытавай канстытуцыі 1974 году як несправядлівай да сэрбаў. У адрозьненьне ад іншых лідэраў апазыцыі, ён ніколі нават не сустракаўся зь Мілошавічам – пакуль у пятніцу 6 кастрычніка генэрал Нэбойша Паўкавіч не наладзіў кароткую сустрэчу паміж былым і будучым прэзыдэнтамі. "Такім чынам, — з гордасьцю сказаў мне Каштуніца, — я ўпершыню сустрэўся зь Мілошавічам, калі ён страціў уладу".

Ён быў памяркоўным нацыяналістам, падтрымліваў Сэрбскую Рэспубліку ў Босьніі і жорстка крытыкаваў ваеннае ўмяшаньне NATO ў Косаве. У адрозьненьне ад Драшкавіча і Джынджыча, яго ніколі ня бачылі ў прыяцельскай гутарцы з Мэдлін Олбрайт. Ён заставаўся ў Бялградзе падчас бамбаваньняў, тым часам як Джынджыч уцёк у Чарнагорыю, баючыся — магчыма, слушна — за сваё жыцьцё.

Ён быў некарумпаваны. Я рэдка бачыў больш спартанскі офіс, чымся ягоны. Ён жыў у маленькай кватэры разам з жонкаю і двума катамі і езьдзіў на старой машыне югаслаўскай вытворчасьці. Зноў жа, у гэтым ён востра кантраставаў зь іншымі лідэрамі апазыцыі, асабліва з Джынджычам і Драшкавічам. Гледзячы на іхныя прыгожыя гарнітуры і хуткія машыны, шмат хто меркаваў, што яны запускаюць рукі ў партыйныя касы — паводле асьвечанага стагодзьдзямі звычаю большасьці палітыкаў у постасманскім сьвеце.



На агульную думку, яму шкодзіла нуднасьць. На справе гэта нават аказалася перавагаю. Шмат разоў людзі казалі мне, што ім падабаецца ягоны павольны, цяжкаваты, флегматычны стыль. Гэта быў такі прыемны кантраст, казалі людзі, з гераічна-трагічным тэатрам Мілошавіча, але і з шмат якімі ягонымі апанэнтамі, накшталт патасна-пыхлівага Вука Драшкавіча. "Ведаеце, я хачу нуднага прэзыдэнта, — сказаў мне адзін незалежны журналіст. — І хачу жыць у нуднай краіне".

І, урэшце, Каштуніца быў не такі ўжо і нудны. Узрушаны – а хто б ня ўзрушыўся? – ён, стаўшы на чале крыжовага паходу за вызваленьне сваёй краіны, стварыў колькі прыгожых і памятных момантаў. Ягонае "Добры вечар, вызваленая Сэрбія", прамоўленае народу на плошчы ў ноч пасьля штурму парлямэнту і тэлевізіі, увойдзе ў падручнікі гісторыі.

Безумоўна, мы ніколі ня ўведаем усіх матываў, чаму 2,4 мільёны сэрбаў паставілі ў нядзелю 24 верасьня птушачку насупраць імя Воіслава Каштуніцы. Але мне прапанавалі два ўражальныя тлумачэньні гэтага.

Першае датычыць натаўскіх бамбаваньняў. Я пытаўся ў палітыкаў і аналітыкаў, калі, на іхную думку, пачалася рэвалюцыя. Некаторыя казалі, часта праз зубы: ну, калі шчыра, пры канцы вайны ў Косаве. У вайну і адразу па яе заканчэньні Сэрбія ў патрыятычным захапленьні аб'ядналася вакол нацыянальнага сьцягу, з чаго скарыстаў і Мілошавіч. Але абсурдна было чуць, як дзяржаўнае тэлебачаньне абвяшчала перамогаю відавочную гістарычную паразу: фактычную страту Косава, сэрбскага Ерусаліму. Эканамічнае становішча пагоршылася, і кожны заклік тужэй зацягнуць паясы ўлада тлумачыла наступствамі бамбаваньняў. Шахцёры ў калубарскіх вугальных шахтах, чый страйк даў рэвалюцыі вырашальны штуршок, казалі мне, што іхны сярэдні заробак зьменшыўся пасьля вайны ад 70 даляраў у месяц да ўсяго 30 даляраў. Гэтае памяншэньне тлумачылася патрэбамі пасьляваеннага аднаўленьня. Але яно іх разьюшыла.

Далей, як гэта фармулюе Вэран Маціч (дырэктар незалежнай радыёстанцыі B92), "Мілошавіч змагаўся на выбарах ня з намі, а з NATO". І гэта таксама не спрацавала, бо на нейкім глыбейшым узроўні людзі думалі: "Але ж ён прайграў NATO!" Калі Маціч мае рацыю, дык Каштуніца ненаўмысна скарыстаў з бамбаваньня, якое ён сам ганьбіў. Гэтае тлумачэньне, вядома, надта спэкулятыўнае, і яго ніколі немагчыма будзе даказаць. Але гэта ня першы выпадак у гісторыі, калі вайна спараджае рэвалюцыю.

Іншае частковае тлумачэньне гучыць менш драматычна, але таксама пераканаўча і важна. Яно палягае ў тым, што вельмі шмат людзей, якія даўней галасавалі за Мілошавіча, проста рашылі, што нарэшце — годзе. Лідэр страціў сувязь з рэальнасьцю. Ён доўга кіраваў краінай, і на яго легла віна за нядолі, якія абрынуліся на Сэрбію. Цяпер настаў час пераменаў. Гэта было, як кажа Огнен Прыбічэвіч, сталы працаўнік Мілошавіча, накшталт таго, што здарылася з Маргарэт Тэтчэр ці Гельмутам Колем пасьля адпаведна адзінаццаці і шаснаццаці гадоў улады. Параўнаньне з Тэтчэр ці Колем можа падацца дзіўным, нават абразьлівым для апошніх. Але яно слушна нагадвае, што для шмат каго з сэрбскіх выбарцаў Мілошавіч ня быў ні ваенным злачынцам, ні тыранам. Ён проста быў нацыянальным лідэрам, які зрабіў нешта добрае і нешта благое, а цяпер мусіў сысьці.

Урэшце, гэтыя людзі прынесьлі Воіславу Каштуніцу галасы, патрэбныя для перамогі ў першым туры – трохі болей за 50%.

Спалучэньне гэтых чатырох складнікаў – выбары на грунце па-



пярэдняй шматпартыйнай палітыкі, мірная рэвалюцыя новага тыпу, кароткі рэвалюцыйны *тэатральны пераварот (coup de théâtre*, як кажуць французы) і рысы змовы – дапамагае разьвязаць галаваломку, зь якой сутыкнуліся журналісты ўсяго сьвету, што запоўнілі Бялград. Шмат тлумачыць і той факт, што розныя лідэры апазыцыі аддавалі перавагу розным спосабам дзеяньня: Каштуніца, жырандыст, заўсёды імкнуўся карыстацца мірнымі, легальнымі, канстытуцыйнымі сродкамі, дэманстратыўна пачынаючы так сама, як зьбіраецца і працягваць; Джынджыч, якабінец, схіляецца да актыўнага чыну; астатнія былі недзе пасярэдзіне.

Праз чатыры дні пасьля сэрбскага супэрчацьвярга апазыцыя, фармальна кажучы, мела ўладу толькі ў асобе прэзыдэнта. "Так, на гэты момант ёсьць толькі я", — з прыкрасьцю зазначыў сп.Каштуніца, калі мы сядзелі ў Палацы Фэдэрацыі. Ён быў адзінаю і законнаю, і легітымнаю фігурай у краіне. Яшчэ праз два тыдні, на момант публікацыі гэтага артыкулу, апазыцыя дасягнула пагадненьня з былой урадавай партыяй, Сацыялістычнай Партыяй Мілошавіча, і з Рухам Сэрбскага Абнаўленьня Вука Драшкавіча пра стварэньне пераходнага ўраду Сэрбіі, на які прыпадае найбольшая частка рэальнай выканаўчай улады. Здаецца, ува ўрад могуць увайсьці некаторыя моцна скампрамэтаваныя прадстаўнікі старога рэжыму. Ключавыя міністэрствы, такія, як Міністэрства ўнутраных справаў, мяркуецца кантраляваць супольна. Новыя рэспубліканскія выбары прызначаны на 23 сьнежня, і гэтая дата будзе пачаткам новага, цалкам законнага і легітымнага кіраваньня Сэрбіяй.

Паўсюль паціху зьяўляюцца пярэваратні. У адным правінцыйным горадзе актывісты "Адпору" раздаюць такім пярэваратням сымбалічныя тубікі вазэліну. Але любой маладой дэмакратыі гэтыя коўзкія апартуністы патрэбныя. Людзі яшчэ баяцца вяртаньня Мілошавіча – ...вампір уздымаецца з труны... – але ўжо вядучыя сябры ягонай жа Сацыялістычнай Партыі заклікаюць да яго адстаўкі. Ягоная партыя, магчыма, мае палітычную будучыню, як посткамуністычныя сацыялістычныя партыі ў іншых краінах посткамуністычнай Эўропы, — але толькі безь яго.

Сьледам за Францыяй, цяперашнім прэзыдэнтам Эўрапейскага Зьвязу і гістарычнай хаўрусьніцай Сэрбіі, увесь сьвет пасьпяшаўся зь віншаваньнямі і прапановамі дапамогі. Вядома, зараз стаіць вялізная задача адбудовы эканомікі: валавы нацыянальны прадукт Сэрбіі складае каля паловы ўзроўню 1989 году. Аднак, калі ўжыць тут эканамічны тэрмін, Сэрбія мае перавагі адсталасьці. Паколькі яна апошняя, яна можа вучыцца з усіх іншых спробаў посткамуністычных пераўтварэньняў. Младан Дзінкіч, прадстаўнік так званай групы *G17 Plus* — групы эканамістаў, якая рыхтавалася да дэмакратычных пераменаў — сказаў мне, што яны спалучаць шокавую тэрапію польскага тыпу з больш асьцярожнай прыватызацыяй. І яны атрымаюць вялікую дапамогу ад Захаду. Чаму? Таму што, груба кажучы, Сэрбія лічыцца малой, але небясьпечнай. (Расея небясьпечная, але занадта вялікая; Баўгарыя малая, але недастаткова небясьпечная.) У гэтым нечаканая карысьць са спадчыны Мілошавіча. Вырашальнае выпрабаваньне – як мы ведаем з досьведу іншых пераўтварэньняў – палягае у тым, ці здолеюць рэфарматары ўсталяваць вяршэнства закону ў надзвычай крыміналізаваным грамадзтве. Гэта вызначыць, ці Сэрбія стане маленькай Расеяй, ці цывілізаванай эўрапейскай краінай.

Застаюцца два вялікія пытаньні. Першае: што гэта за краіна? Каштуніца вітаў "вызваленую Сэрбію", а пасьля быў прыведзены да прысягі як прэзыдэнт Фэдэратыўнай Рэспублікі Югаславіі. Чарнагорыя не прызнала яго за югаслаўскага прэзыдэнта, і цяпер ён прапануе зьмяніць імя краіны на Сэрбію-Чарнагорыю – што надта нагадвае прапанову 1990 году пісаць Чэха-Славаччыну праз злучок, пасьля чаго хутка адбыўся "аксамітны развод" абедзьвюх палавінак дзяржавы. Пасьля наступных сэрбскіх выбараў пачнуцца перамовы пра новыя стасункі з Чарнагорыяй. Каштуніца ясна даў зразумець, што ён прыме вынік рэфэрэндуму ў Чарнагорыі – і, у гэтым выпадку, у Сэрбіі таксама, бо заставацца разам з чарнагорцамі любой цаной, у няроўнай ці бутафорскай канфэдэрацыі, сэрбы не захочуць.

Другое пытаньне: што рабіць зь мінуўшчынай? На Захадзе яно звычайна зводзіцца да пытаньня, што рабіць зь Мілошавічам. Гаага? Каштуніца некалькі разоў выключыў магчымасьць экстрадыцыі. Працэс у Сэрбіі? Гэтага жадаюць тут многія. "Галяндзкая турма была б для яго задобрая, — казаў мне адзін чалавек, — хай паспытае сэрбскай". Ці ён проста "больш часу будзе бавіць зь сям'ёй"? "Мне сапраўды пляваць, што зь ім будзе, – кажа Зоран Джынджыч. — У нас цяпер іншыя прыярытэты".

Але праблема мінуўшчыны нашмат большая і складанейшая, чымся проста пытаньне пра лёс Мілошавіча. Надта шмат людзей, нават некаторыя высокапастаўленыя апазыцыянэры, даўней былі прыслужнікамі рэжыму ці падтрымлівалі яго. Ёсьць яшчэ і канфлікт паміж аднабокім зрокам большасьці звычайных сэрбаў – якія бачаць сябе ахвярамі і Мілошавіча, і NATO – і амаль гэткай жа аднабокасьцю шмат каго ў замежжы, хто ўважае "сэрбаў" проста за басьнійскіх і косаўскіх злачынцаў. Перад камісіяй па сэрбскай праўдзе стаяла б неверагодна цяжкая задача.

Гэтыя і шмат якія іншыя пытаньні застаюцца адкрытымі. Але ўжо цяпер, праз два тыдні, мы можам з поўнасьцю сказаць колькі словаў аб тым, што скончылася і што пачалося.

Калі рэвалюцыя "Салідарнасьці" ў Польшчы была пачаткам канца камунізму, дык цяперашняя рэвалюцыя – канец канца камунізму. У дваццацігадовым шэрагу рэвалюцыяў новага тыпу ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе кожная вучылася з досьведу папярэдніх, але і дадавала новыя складнікі і варыяцыі. І ня толькі ў Эўропе. Тут ёсьць таксама рэха Філіпінаў і Інданэзіі. І, спадзяемся, вестка для іншых краін. У цяперашняй глябалізаванай палітыцы мы прасунуліся далей за старыя рэвалюцыйныя мадэлі 1789 і 1917 гадоў. Калі гэта здарылася ў Сэрбіі, дык чаму б ня ў Бірме? Чаму не на Кубе?

Вызваленьне – гучнае слова, асабліва для людзей, якія нават пад Мілошавічам былі напаўсвабоднымі, прычым уверсе дагэтуль застаецца шмат чаго ад старога рэжыму – і ўладныя структуры, і асобы. Але яны зараз нашмат больш свабодныя, і свабаднеюць з кожным днём. "Мы проста дыхаем вальней", – сказаў мне адзін знаёмы. Больш за тое, яны нарэшце могуць рабіць пляны на будучыню. Паводле аднаго вызначэньня, вызваленая краіна – гэта месца, куды людзі вяртаюцца, а не зьяжджаюць адтуль. Сэрбія цяпер будзе такой краінай.

Падобна да таго, як вугорская рэвалюцыя 1956 г. трансфармавала ўяўленьне пра Вугоршчыну ў сьвеце, гэтая сэрбская рэвалюцыя зьменіць уяўленьне пра Сэрбію. У адрозьненьне ад немцаў у 1945 г., сэрбы вызвалілі сябе самі. Калі яны здолеюць самі разьвязаць праблему мінуўшчыны, іхная рэпутацыя яшчэ палепшае.

Гэта канец балканскіх войнаў. Каштуніца вельмі клапоціцца пра ўсіх сваіх братоў-сэрбаў у Харватыі (дзе іх засталося вельмі мала), у Босьніі, у Косаве (ён хоча, каб туды вярнулася больш сэрбскіх уцекачоў) і ў Чарнагорыі. Але ён мірны чалавек, і ён будзе перасьледаваць сэрбскія нацыянальныя інтарэсы шляхам перамоваў. Адзіныя, хто цяпер можа хацець вайны на Балканах, гэта альбанцы ў Косаве і Македоніі; калі NATO са сваімі шматтысячнымі аддзеламі ў Косаве ня здолее запабегчы гэтаму, дык яно з тым жа посьпехам можа ператварацца ў клюб кулінараў.



Гэта канец і сэрбскіх імпэрскіх мрояў. Я гутарыў у Бялградзе зь пісьменьнікам Добрыцам Чосічам, якога шмат хто лічыць натхняльнікам гэтых мрояў у Мэмарандуме Сэрбскай Акадэміі Навук у 1986 годзе, хоць сам ён гэтаму пярэчыць. У прэзыдыюме Сэрбскай Акадэміі ён казаў мне, што галоўная задача зараз палягае проста ў пабудове сучаснай сэрбскай нацыянальнай дзяржавы. Нават калі чарнагорцы захочуць пайсьці сваім шляхам – хоць, суха дадаў ён, Чарнагорыя — вынаходка сталінскай нацыянальнай палітыкі — хай так і будзе. Хай ідуць. Сэрбы мусяць брацца за пабудову ўласнае дзяржавы.





Калі так і будзе — а я мяркую, будзе, — дык мы наблізімся да канца даўжэйшай і большай гісторыі: двухсотгадовага, павольнага і з доўгімі пярэрвамі працэсу фармаваньня сучасных эўрапейскіх нацыянальных дзяржаваў на руінах асманскай імпэрыі.



Гэта, у сваю чаргу, будзе складаным выпрабаваньнем для Захаду, але перадусім для Эўропы — і асабліва для Эўрапейскага Зьвязу. Бо пасьля падзеньня Мілошавіча няма больш ніякай вонкавай перашкоды для таго, каб збудаваць лібэральную супольнасьць не з 15, а з 30 нацыянальных дзяржаваў. Цяпер мы сапраўды маем шанец — але і найскладанейшую задачу — збудаваць тую "цэлую і свабодную Эўропу", дух якой Джордж Буш-старэйшы так памятна прыклікаў у апошнім сутоньні халоднай вайны.

Шмат чаго можа здарыцца аднойчы ў чацьвер паміж трэцяй і сёмай гадзінай папоўдні.

**Пераклаў з ангельскай мовы Алесь Пяткевіч паводле *The New York Review of Books***

## каляндар

**6 лістапада 1900 г. Уільям Мак-Кінлі ў другі раз быў абраны на прэзыдэнта ЗША.** Ён перамог на выбарах яшчэ ў 1896 г. На падрыхтоўку гэтай рэклямнай кампаніі пайшло 200 мільёнаў улётак, выпадак беспрэцэдэнтны ў амэрыканскай гісторыі. У адрозьненьне ад папярэднікаў, Мак-Кінлі падчас прэзыдэнцкай гонкі ня езьдзіў па краіне, а выступаў з вэранды ўласнага дому, а прамовы пазьней шырока асьвятляліся ў прэсе. Таксама ён быў першым прэзыдэнтам ЗША, якога здымалі на кінастужку. Пры Ўільяме Мак-Кінлі Злучаныя Штаты праводзілі актыўную зьнешнюю палітыку: баявыя дзеяньні супраць гішпанцаў на Філіпінах, Кубе, у Пуэрта-Рыка. ЗША анэксавалі Гаваі, прэзыдэнтам Сэнату якіх быў Мікалай Судзілоўскі. Бліскучыя посьпехі паспрыялі абраньню Мак-Кінлі на другі тэрмін. Аднак 6 верасьня 1901 г. ён быў застрэлены з рэвальвэру анархістам Леанам Чолгасам. Імя Ўільяма Мак-Кінлі атрымала найвышэйшая гара Паўночнай Амэрыкі.

**7 лістапада 1575 г. пачаўся 2-гі Варшаўскі элекцыйны сойм.** Адкрыцьцё сойму фактычна паставіла кропку на панаваньні Генрыха Валезы. Прайшоўшы добрую школу Барталямэеўскай ночы, у лютым 1574 г. ён быў абраны на караля Рэчы Паспалітай. Яшчэ да інаўгурацыі ён падпісаў пагадненьні (*Генрыхавы артыкулы*), паводле якіх кароль Рэчы Паспалітай ня меў права бяз згоды сойму прызначаць сабе пераемніка, мець зносіны з замежнымі дзяржавамі, склікаць паспалітае рушэньне. Пракараляваў Генрых роўна чатыры месяцы і пасьля сьмерці французскага караля Карла IX зьехаў у Парыж – змагацца за тамтэйшы трон. Магчыма, паспрыяла гэтаму і тая акалічнасьць, што яго абавязвалі ажаніцца з Ганнай Ягелонкай, 53-гадовай сястрой Жыгімонта Аўгуста. Каму ж захочацца псаваць сабе жыцьцё, калі маеш 23 гады і навокал столькі прывабных палячак і ліцьвінак?

Некалькі месяцаў магнаты Рэчы Паспалітай шукалі патрэбнага кандыдата, і адкрыцьцё Варшаўскага сойму 7 лістапада 1575 г. дазволіла ўздыхнуць з палёгкай – ім стаў бліскучы военачальнік князь Іштван Сяміградзкі – са сьнежня 1575 г. кароль Сьцяпан Батура.

**7 лістапада 1875 г. нарадзіўся Міхаіл Калінін.** У 1922 г. ён узначаліў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР. Некалькі разоў ён быў у Беларусі: у 1919 г. – прыяжджаў з агітцягнікам "Кастрычніцкая рэвалюцыя"; у 1933 г. – выступаў на 1-м усебеларускім зьлёце конюхаў-ударнікаў; у 1935 г. – на юбілейнай сэсіі ЦВК БССР у Менску ўручаў Беларусі ордэн Леніна.

**11 лістапада 1800 г. нарадзіўся Міхаіл Пагодзін, расейскі гісторык, публіцыст, пісьменьнік.** Быў адным з прапаведнікаў афіцыйнай ідэалёгіі: "праваслаўе", "самадзяржаўе", "народнасьць". Зьбіраў помнікі старасьветчыны, старадрукі, у тым ліку кнігі Скарыны, апублікаваў атлас старажытных гарадзішчаў Беларусі.

**11 лістапада 1875 г. нарадзіўся беларускі драматург і гумарыст Альбэрт Паўловіч.** Пачаў друкавацца ён з 1907 г. Ягоныя допісы зьяўляліся на старонках "Нашай Нівы", "Маладой Беларусі", "Лучынкі". Пісаў таксама крытычныя артыкулы, патрыятычныя вершы, перакладаў на беларускую мову Пушкіна, Шаўчэнку, Канапніцкую, Сыракомлю. У 1930-х па абвінавачаньні ў нацыянал-дэмакратычным ухіле быў высланы зь Беларусі.

**Алег Гардзіенка**

# Шпацыр па Сатанінскай

## *Тапанімічная рэвалюцыя*

Сяргей Паўлоўскі

Беларускі лёс — наслаеньне акупацыяў, кожная зь якіх пакідае свой сьлед. Гуманітарныя адбіткі — у назвах вуліц, якія накладаюцца адна на адну, утвараючы такім чынам культурны слой. Нібы рэстаўратар, ты сашкрабаеш слой за слоем, і перад вачыма паўстаюць фрэскі, што пісаліся адна на адну. Расейская акупацыя, савецкая, нямецкая, польская, зноў савецкая, зноў нямецкая, зноў расейская... Ты ведаеш, што самая аўтэнтычная, самая «правільная» фрэска недзе пад усімі гэтымі наслаеньнямі. Так спазнаецца гісторыя краіны і нацыі, і гораду.

Па сёньняшніх назвах вуліц мы бачым, што ў душах тутэйшых людзей робіцца сёньня. Атрымліваем праўдзівыя зьвесткі пра тое, чым жыве край. Газэты і прамоўцы могуць хлусіць, розум насельнікаў можа быць затлумлены аблуднымі ідэямі ці памкненьнямі, але назвы вуліц ня хлусяць, яны адлюстроўваюць гэты абсурд настрояў, як самыя жорсткія сьведкі. Сапраўды, тутэйшыя жыхары могуць не задумвацца над дысгарманічнымі спалучэньнямі, калі распавядаюць, што трэба з вуліцы Леніна зьвярнуць на праспэкт Скарыны, а пасьля выйсьці на Камсамольскую. Яны могуць не задумвацца, але назвы ў такіх спалучэньнях выкрываюць усю праўду пра стан іхных розумаў і тое, як яны жывуць.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Менск не перажыў тапанімічнай рэвалюцыі часоў перастройкі. Хоць былі і камісіі, і вялізныя сьпісы прапановаў з падрабязным абгрунтаваньнем. Сёе-тое зьмянілі, але, бадай, гэтым прыўнесьлі яшчэ больш эклектыкі ў гарадзкі кантэкст, які збольшага так і застаўся расейска-савецкім. Сёньня няма ўжо тых камісіяў, таго імпэту і тае веранасьці ідэям. Між тым дзесяцігадовы досьвед суседніх краінаў засьведчыў, які прынцып пры пераназываньні вуліц мусіць быць галоўным. Галоўнае, як высьвятляецца, гэта нават ня тое, які слой пасьлядоўна адкрываць. Галоўнае — тое, каб была гармонія гучаньня, зьместу назваў і каб яны не ўступалі адна з адной у недарэчныя спалучэньні.

Асабіста мне тапанімічная рэвалюцыя ў Менску не ўяўляецца. Надта ж шмат у нас усяго наблытана. Цэлыя гарадзкія раёны поўняцца ўсялякімі недарэчнасьцямі. Гэта менская Сібір — раён Ангарскіх ды Байкальскіх, ці — заказьнікі расейскіх мастакоў, ці праспэкты газэтаў «Правда» і «Известия»... Тут працы і творчасьці на шмат гадоў. Але першым чынам варта было б замяніць тыя назвы, якія носяць сатанісцкія, антычалавечыя імёны. У Менску такіх процьма. Скажам, усім вядомая вуліца Гікалы. Жыва ўяўляю сабе, што дапытлівы школьнік разгорне энцыкляпэдыю «Беларусь», каб высьветліць, чаму ягоная вуліца носіць такое імя. Акажацца, таму, што ўраджэнец Адэсы Мікалай Гікала ўдзельнічаў у разгортваньні масавых рэпрэсіяў у БССР.

Альбо вось і зусім страшнаваты прыклад. Тыцнуўшы пальцам у выпадковае імя ў сьпісе гарадзкіх вуліц, я натрапіў на вуліцу Ваўпшасава — таксама вядомую ў горадзе магістраль. У найноўшую энцыкляпэдыю гэты дзеяч не ўвайшоў, затое ёсьць у старэнькай БелСЭ. Паводле гучаньня прозьвішча наводзіць асацыяцыі зь нечым каўкаскім, але праўда бліжэй. Літовец Станіслаў Ваўпшас, ураджэнец Шавельскага павету — той унікальны для літоўцаў выпадак, калі да бацькавага прозьвішча на расейскі манер было прыстаўленае -ов. Парабкоўскае паходжаньне і пралетарская сьвядомасьць зрабілі яго на ўсё жыцьцё верным энкавэдыстам, патрабавалі, каб абрусеў. Так нашыя Кавалі ды Новікі рабіліся Кавалёвымі й Новікавымі. Усё сьвядомае жыцьцё таварыша Ваўпшасава прайшло на перадавой, дакладней, за сьпінамі тых, каго гналі на перадавую. Бо што рабіў начальнік апэратыўнага атраду НКВД хоць на фронце, хоць у партызанах, хоць у далёкай Маньчжурыі — вядома. Ён ваяваў ня з ворагам, а са сваімі, тымі, на каго паступаў данос. Завяршыў свой жыцьцёвы шлях Ваўпшасаў у Маскве, абласканы ўладамі і грамадзкім ладам. Чэкіст-расстрэльшчык, камандзір заградатраду, увесь, да валасінкі ў чалавечай крыві, працягвае ціха праменіць у душы менчукоў сваю ідэйную бесчалавечнасьць. Здаецца, такую вуліцу дзеля адэкватнасьці варта было б пераназваць у якую Вампірскую ці Сатанінскую. Сутнасна гэта будзе тое самае. Шкада толькі людзей, якія на гэтай вуліцы жывуць.

# Сто перайменаваньняў за год

Сяргей Харэўскі

Неяк у юнацтве, начытаўшыся пра «белагаловага консула» ў Японіі Язэпа Гашкевіча, паехаў я ў Вільню, каб знайсьці ягоную магілу. З пошукам могілак някіх праблемаў ня ўзьнікла. Дарослыя віленчукі адразу скіравалі мяне на Ліпоўку, на старасьвецкія Спаса-Эўфрасіньнеўскія клады.

Я зьвярнуўся да старое кабеты, што парадкавала цьвінтар вакол царквы. Яна гэткага Гашкевіча нешта не прыгадала, але параіла паехаць у інвэнтарызацыйнае бюро віленскіх могілак. Гэта, — кажа, — на Кам'яўніма, 18. Я пасмакаваў у роце чужое слова, што па-літоўску значыць Камсамольская, і зьбянтэжыўся, засумняваўшыся, ці слушна я яго паўтараю. А старая кабета мне й кажа: ты ня бойся, спытай, дзе вуліца Завальная, і табе там падкажуць.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

І сапраўды, старыя людзі, ані каліва ня дзівячыся, паказалі мне слушны адрас. Кам'яўніма сама па сабе, Завальная сама па сабе. Цяпер яна завецца Піліма.

У Максіма Лужаніна ёсьць гэткія радкі:

*На зялёнай Пiліме,*
*На Завальнай калішняй*
*За сяброўства пілі мы*
*Старасьвецкім кілішкам.*

Пасьля гэтага я пачаў уважліва прыслухоўвацца да гутарак віленчукоў, пільней вывучаць старую віленскую тапаграфію. Вось п'яніцы радасна вітаюць адзін аднаго: «Як мы рады, як мы рады, што вы ўсе із Добрай Рады». Добрая Рада — гэта такая вуліца на ўскрайку, і яе ваколіцы завуцца гэтаксама. Тамака ж і наркалягічны дыспансэр. Па-літоўску гэтая вуліца завецца Гяросёс Вільцес.

З 1990-га па 91-ы амаль усе віленскія вуліцы былі пераназваны. Радыкальна. Тады тут выдаваліся самыя розныя брашуркі, кшталтам: «Сто перайменаваньняў за год», дзе падрабязна, на ўсіх тутэйшых мовах, вытлумачвалася, дзеля чаго зробленае тое ці іншае перайменаваньне. З таго часу назвы віленскіх вуліц больш не мяняліся, за выключэньнем некалькіх.

Трэба зазначыць, што й за саветамі большасьць старых віленскіх вуліц захоўвала свае гістарычныя назвы — Субач, Бакшта, Галубовіч, Полацкая, Галяндзкая ды гэтак далей. Праз стагодзьдзі, у розным вымаўленьні, але засталіся. Найбольш дасталося з перайменаваньнямі галоўным вуліцам. Як і паўсюль у СССР, галоўны праспэкт насіў імя Леніна. Хрэстаматыйны прыклад. Былы Юраўскі (па-беларуску), ён быў то Сьвята-Георгіевскім, то — нядоўга — Гедыміна, пасьля Міцкевіча, пасьля Сталіна, затым Гітлера, ізноў Сталіна, Леніна і, нарэшце, ён ізноў носіць імя Гедыміна... Між іншым, яшчэ і за саветамі літоўцы панадавалі віленскім вуліцам імёны сваіх князёў. Былая Мураўёва, пасьля Пілсудзкага, адразу па вайне была перайменавана ў Міндоўга, тут у доме пад лічбаю 13 месьціцца сёньня беларускае пасольства. Былі ў Вільні ў глыбока камуністычныя часы й вуліцы Вітаўта, Кейстута, і таго ж Гедыміна. Як былі тады, гэтак і засталіся ў незалежнай Літве. У тым жа Менску як не было вуліцы Рагвалода ці Ўсяслава Чарадзея, гэтак няма й дасёньня. Таму параўноўваць не выпадае.

Хоць і ў Вільні былі свае перагібы. Гэтак Навагрудзкую за саветамі звалі Партызану або Партызанскай. А колішнія вуліцы Вастрабрамскую, Вялікую й Замкавую, у тыя ж часы, злучылі ў адну — Горкага, як, дарэчы, паўсюль у Заходняй Беларусі адсюль і да Пінска. Цяпер гэтыя вуліцы ў Вільні носяць кожная сваё імя. Адно што па-літоўску Вялікая, дзе стаіць друкарня Скарыны, завецца Дыджоі. І яшчэ адну вуліцу падзялілі назвамі. Былая Танкістаў цяпер завецца часткова Беларускай, часткова Польскай. А вось за камуністамі гэткіх назваў не было. Былі Руская, Жыдоўская, Татарская, Караімская...

А вось практыка дзяліць вуліцы, трансфармуючы іхныя назвы, у Вільні сябе апраўдала. Напрыклад, была вуліца Пятраса Цьвіркі, ці не найбуйнейшага літоўскага, але наскрозь савецкага пісьменьніка XX стагодзьдзя. Што было рабіць? Зносіць помнік? Вырашылі помнік Цьвірку пакінуць, сквэр ягонага імя пакінуць, назву тралейбуснага прыпынку пакінуць. Затое частка вуліцы цяпер носіць імя Якуба Ясінскага, а частка завецца Паменкальнё, гэта штосьці кшталтам Гары Зьзяньня, поўны наватвор. Што да Ясінскага, дык тут адбылося вяртаньне назвы 30-х гадоў, гэта значыць, з польскага часу. Але як нармальны герой, дык і літоўцам хапіла цяму не камплексаваць ад «польскае» назвы. А тых «польскіх» назваў у Вільні пазаставалася багата. Напрыклад, вуліца Тадэвуша Касьцюшкі вось ужо хутка 80 гадоў як не мяняла назвы. Тое ж і зь імёнамі Канарскага, Манюшкі, Вівульскага, Урублеўскага, Нарбута... Усе на сваіх месцах, што за Польшчаю, што за саветамі, што за Літвою.

Больш складана зь беларускай тапаграфіяй. Беларусы былі моцна пакрыўдзіліся, калі літоўцы ў 90-м годзе ліквідавалі вуліцу імя Янкі Купалы ў цэнтры. І гэта ў Вільні! Але неяк і тут выкруціліся. Цяпер імя Купалы носіць былая вуліца Чарняхоўскага, імя Цёткі — былая вуліца палкаводца Кутузава, далі адной вуліцы імя Якуба Коласа, іншай — Францішка Скарыны, а Каліноўскага ўжо й не чапалі. Засталіся ў Вільні й вуліцы Слуцкая, Віцебская, Беластоцкая, Менская ды яшчэ з тузін беларускіх назваў.

Ну, нібы ўсё ў парадку. Аднак я ня ўпэўнены, што Малая Пагулянка мусіць насіць імя Кастуся Каліноўскага. Па-першае, канкрэтная вуліца нічога канкрэтнага да Каліноўскага ня мае. А вось Пагулянкі ў Вільні сёньня няма. У таго ж Лужаніна ёсьць гэткі сэнтымэнтальны матыў:

*А калі ад сяброў —*
*Зачараваны восеньскім ранкам —*
*Я цішком адышоў*
*І падаўся на ўсход Пагулянкай —*
*Там у шэрай жакетцы такая красуня стаяла,*
*Што ніколі*
*На гэтым*
*На белым*
*На сьвеце*
*Зямля не трымала.*

А днямі старую вуліцу Праскокі, дзе пабудаваў цэлы квартал дамоў слынны беларускі архітэктар Леў Вітан-Дубейкаўскі, перайменавалі ў гонар Мсьціслава Дабужынскага. На вуліцы тры дамы, і яна сама шырынёю ў пару мэтраў. Праскокі натуральныя. А як для Дабужынскага, клясыка нашага мастацтва, дык і несалідна.

Але збольшага ў Вільні зроблена ўсё слушна. Як зь літоўскага гледзішча. Вернутыя ўсе гістарычныя назвы, што былі да расейскае акупацыі ў XVIII ст. Навейшым кварталам і вуліцам вернутыя назвы, што бытавалі ў размоўнай традыцыі да савецкага часу. Пакінутыя ўдалыя назвы, што прыклеіліся за савецкім часам. Напрыклад, вуліца Шаўчэнкі, што за царом называлі Бухарскай. Ці вуліца Архітэктараў. Ці вуліца Міру, па-літоўску Тайкос. Ну што ў іх кепскага?

Цяпер у Вільні выдаецца энцыкляпэдыя тутэйшых вуліцаў. У адным томе — расповед пра тры-чатыры вуліцы, у наступным пра пяць. І гэтак крок за крокам. Вядома, я не магу без усьмешкі глядзець на рэпрадукцыі старых плянаў, мапаў, красьлюнкаў ад цара Гароха, дзе ўсе назвы па-лаціне, па-польску, па-беларуску ахайна зарэтушаваныя й перапісаныя ў той самай старасьвецкай стылістыцы па-літоўску. Напрыклад, як у факсымільным выданьні кнігі Адама Кіркора «Вільня». І там усё на літоўскі манер перакручана. Але, іранізуючы зь літоўцаў, разумею таксама, што беларусы пра такое нават пакуль і ня думалі. Выдаць Кіркора па-беларуску. Хоць сёньня мо й праўда не да пацераў...

# Каля аптэкі на Францішканскай

Зьміцер Бартосік

Неяк сябра папрасіў звазіць яго на Сьвятую гару. Маўляў, як жыць у Беларусі і не пабываць на самай высокай кропцы. Я з радасьцю пагадзіўся. Мы ехалі па праспэкце Дзяржынскага, праз горад Дзяржынск. І прыехалі на гару Дзяржынскую. «Ды ён што, нарадзіўся тут, ці што?» — абураўся недасьведчаны сябра. Я пацьвердзіў гэты сумны факт. «Божа! — усклікнуў прыяцель. — Якое шчасьце, што тут хоць Берыя не нарадзіўся! Калі ўжо скончыцца гэты ідыятызм!» Калісьці і мне здавалася, што гэты ідыятызм скончыцца вельмі хутка.

Памятаю, як у часы перабудовы вярталі першай савецкай вуліцы яе спрадвечную назву. Гонар выпаў вуліцы Мэтрастроеўцаў у Маскве, колішняй Астожанцы. Гэта быў год восемдзесят сёмы. Яшчэ на геаграфічных мапах працягвалі сваё сумнае жыцьцё ня толькі Горкі з Куйбышавам, але і Ўсьцінаў з Брэжневам. Але тая невялічкая маскоўская вуліца Астожанка сваёю ўваскрошанаю назвай сталася нібы перадвесьніцай вялікіх і незваротных пераменаў. Празь некалькі гадоў у Расеі, і ня толькі ў ёй, пачалася сапраўдная тапанімічная рэвалюцыя. Старажытныя гарады ўзгадвалі свае сапраўдныя назовы, бясконцыя акцябарскія ды дзяржынскія вуліцы з радасьцю й азартам скідвалі зь сябе штучныя шыльды і зноў, нібы й не было гэтай эпохі, станавіліся Пакроўкамі ды Раждзесьцьвенкамі.

Гэтую эпоху я засьпеў у Ніжнім Ноўгарадзе, які яшчэ ўчора быў горадам Горкім. Якое тады панавала акрыленьне сярод гараджанаў! Мы ўсе наноў станавіліся ніжагародцамі.

Пасьля падзеньня Ленінграду тапанімічная рэвалюцыя пакацілася з новымі тэмпамі па ўсёй Расеі. І, як любая расейская рэвалюцыя, прыняла характар абвальны й бескампрамісны. Здавалася, пераймяноўвалася ўсё, што можна было перайменаваць. З асаблівым імпэтам гэта рабілі ў маскоўскім мэтро. Мяне да гэтае пары працінае, калі дыктарка падземкі ласкава аб'яўляе "Наступная станцыя "Лубянка". Бедныя госьці расейскай сталіцы нямала напакутаваліся ў той час, дарэмна чакаючы сваіх станцыяў "Плошча Сьвярдлова", "Лермантаўская" ці "Праспэкт Маркса", і праяжджалі міма "Тэатральнай", "Красных варотаў" і "Ахотнага раду". У вялікіх гарадах усьлед за сталіцамі вуліцы мяняліся па дзясятку за дзень — што ўносіла блытаніну ў працу пошты і ў неакрэплыя постсавецкія мазгі. Мяне вельмі весяліў адзін чытацкі водгук на вяртаньне вуліцы Фігнэр яе назвы Варва́рская. Савецкі чалавек прачытаў назву як Ва́рварская. У той час я сышоўся ў спрэчцы з родным бацькам, які выступіў на абарону сваёй вуліцы Калініна, былой Засімаўскай, што ў добрай сотні іншых валагодзкіх вуліц таксама чакала свайго зорнага часу. "Вы ж горш за бальшавікоў са сваім дурным жаданьнем памяняць усё адным махам. Якая мне розьніца, вернецца Засімаўская заўтра, праз год ці ніколі. Галоўнае, каб мой ліст прыйшоў у мой дом своечасова".

Сёньня тая далёкая спрэчка выразна сьведчыць на маю карысьць. Расейскія гарады пазбавіліся некалі абавязковых бясконцых вуліцаў Леніна, Дзяржынскага, Сьвярдлова. І сёньняшнім маленькім самарцам ды іжэўцам іх беларускія аднагодкі могуць адно пазайздросьціць.

Беларусь тая рэвалюцыя абмінула. Зараз можна толькі ўяўляць, якія маглі б быць яе наступствы. Мы жылі б у цалкам іншых па духу гарадах і мяняліся самі, гаворачы, на першы погляд, самыя звычайныя фразы. Напрыклад, таксісту: "Шэф. Зараз едзем на Дамініканскую, але на Валоцкай прыпыніся". Ці прызначаючы спатканьне: "Чакаю цябе, родная, каля аптэкі на Францішканскай". А адно чытаньне навюткіх шыльдаў ператваралася б па першым часе ў гістарычнае чытво. Фэліцыянаўская, Зборавая, Койданаўская. І як у такой аблямоўцы не адчуць сябе самога гістарычнай асобай?



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## УСХОДНІЯ ДОБРААХВОТНІКІ



**С.Дробязко. Вторая мировая война 1939–1945 гг.: Восточные добровольцы в вермахте, полиции и СС.—Москва: ТАА "Издательство АСТ", 2000. – 48 с., 8 каляр. іл. – (Военно-историческая серия "Солдатъ"). – Наклад 7000 ас. ISBN 5-17-000068-5**

У 1941-1944 г. землі Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі і Ўкраіны знаходзіліся ў складзе акупаваных абшараў, падпарадкаваных Міністэрству ўсходніх тэрыторый на чале з А.Розэнбэргам. З восені 1941 г. на гэтых тэрыторыях пачынае ўзьнікаць партызанскі рух, які актывізуецца ў 1942 г. Нямецкае кіраўніцтва, як вайсковае, так і цывільнае, шукала найбольш эфэктыўных сродкаў барацьбы зь ім. Самым простым для Бэрліна падавалася правядзеньне карных акцый, але гэта патрабавала значных вайсковых і матар'яльных высілкаў. Найперш не хапала людзкіх рэсурсаў, таму нямецкае камандаваньне стала прыцягваць дзеля гэтага "добраахвотніцкія" фармаваньні: казацкія, ост-мусульманскія, расейскія фармацыі. Што тычыцца расейскіх і "ост-мусульманскіх" фармацый, дык значную іх частку складалі савецкія салдаты, якія патрапілі ў палон у 1941–1942 гг., так што казаць пра іхны добраахвотніцкі характар не выпадае: у салдата быў выбар – ці галодная сьмерць, ці служба акупанту. На нямецкім баку змагалася каля 800 тыс. былых савецкіх грамадзянаў, найперш у ахоўных батальёнах, падразьдзяленьнях СС, мясцовай дапаможнай паліцыі ды іншых збройных фармаваньнях.

У кнізе "Восточные добровольцы в вермахте, полиции и СС" даецца надзвычай папулярны выклад гісторыі ўсходніх "добраахвотніцкіх" фармаваньняў на нямецкай службе. Яна прызначана аматарам гісторыі, школьнікам і ўсім цікаўным. Мастак і аўтар аднавілі абмундзіраваньне паліцыянтаў і мясцовых жаўнераў нямецкага войска – ад эстонскіх да ўкраінскіх. Апісваюцца дэталі вопраткі, клясыфікуюцца знакі адрозьненьня: пагоны, шэўроны, цэшкі ды інш. Вартасьць рэканструкцый у тым, што яны падаюцца комплексам – разам эстонскія, латыскія, літоўскія, беларускія і ўкраінскія. Адно што ў кнізе зроблена памылка ў дачыненьні да нарукаўнае нашыўкі Саюзу Беларускае Моладзі, дзе колеры беларускага нацыянальнага сьцягу, на фоне якога разьмешчана эмблема СБМ, падаюцца ў пасьлядоўнасьці: чырвоны-белы-чырвоны. А вось нарукаўная нашыўка й шчыток на шаломе унтэршарфюрэра 13-га беларускага батальёну СС намаляваны бела-чырвона-белымі. Побач з рэканструкцыяй вопраткі беларускага эсэсаўца выяўлены ў вайсковых строях віцэ-капрал беларускае дапаможнае паліцыі й начальнік Галоўнае ўправы Беларускае Краёвае Абароны капітан Францішак Кушаль.

Для напісаньня гэтае кнігі выкарыстаны ўспаміны Ф.Кушаля пра стварэньне беларускага войска пад нямецкай акупацыяй. Сярод крыніц, згаданых пры канцы кнігі, паводле колькасьці пасьля расейскіх і ангельскіх стаяць беларускія. Гэта кнігі, выдадзеныя ў Менску Архівам найноўшай гісторыі, "Беларускім гістарычным аглядам", а таксама – кніга Юр'я Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй", зборнік дакумэнтаў "Другі Ўсебеларускі кангрэс", выдадзены Беларускаю Цэнтральнаю Радаю пад рэдакцыяй Радаслава Астроўскага ў 1954 г. У кнізе багата выяў жаўнераў, у тым ліку беларускіх.

Характэрна, што падобная публікацыя пра вайну выйшла ў Маскве, бо наўрад ці яна магла бесьперашкодна быць апублікаваная ў Менску, прычым і з-за цэнзурных праблемаў таксама.

**Віктар Мухін**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

М.Крывальцэвіч. **Археалягічныя адкрыцьці сьвету**. – Менск: Athenaeum, 2000. – 124 с. + XVI с.: іл. – (Athenaeum: Commentarii Historiae et Culturae, № 1 (2), Калекцыя "Панарама", т. 1). – Наклад 500 ас. ISBN 985-6374-11-1

*У кнігу ўвайшлі нарысы Міколы Крывальцэвіча пра найбольш значныя ў сьвеце археалягічныя адкрыцьці, што ў свой час друкаваліся на балонах "Нашае Нівы". Гэтаю кнігай Алег Дзярновіч працягвае выданьне альманаху "Athenaeum". Цана кнігі – 2000 руб.: багата ілюстрацый, каляровая вокладка й добрая папера.*

Я.Янішчыц. **Выбранае** / Укладаньне А.Канапелькі й В.Коўтун; Прадмова З.Бугаёва. – Менск: Мастацкая літаратура, 2000. – 351 с., (4) арк.: іл. – Наклад 2250 ас. ISBN 985-02-0426-5

*У кнігу Яўгеніі Янішчыц увайшлі амаль усе ейныя творы, сярод іх і тыя, што не друкаваліся ў прыжыцьцёвых зборніках. Шырокае кола чытачоў упершыню мае магчымасьць пазнаёміцца зь няскончанаю паэмай "Галалёд" і апавяданьнямі аўтаркі.*

В.Дубінка. **Выцінанкі**: Альбом. – Менск, 1999. – Наклад 500 ас.

*Беларусы могуць пахваліцца тым, што робяць найлепшыя ў сьвеце выцінанкі – выразаныя з паперы ўзоры й малюнкі. Але, бадай, найлепей з усіх беларусаў "выцінае" Вячаслаў Дубінка, чые працы склалі гэты альбом. Набыць можна на кніжнай выставе ў менскай сядзібе ТБМ.*

А.Марціновіч. **Залатавуст з Турава**: Нарыс: Для малодшага школьнага веку / Мастак А.Кашаноўскі.– Менск: Юнацтва, 2000. – 127 с.: іл. – Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0347-5

*Кніжка пра Кірылу Тураўскага, царкоўнага дзеяча XII ст., і Тураўшчыну. Алесь Марціновіч распавядае дзецям пра станаўленьне хрысьціянства на Палесьсі, гістарычны лёс гэтае часткі Беларусі. Пэўная ўвага аддаецца цяперашчыне рэгіёну. Кніга багатая на малюнкі. Цана – усяго 720 руб.*

У.Котаў ды інш. **Мэтады альгарытмізацыі**: Навучальны дапаможнік для 9 клясы агульнаадукацыйнае школы з паглыбленым вывучэньнем інфарматыкі зь беларускаю моваю навучаньня / У.Котаў, І.Волкаў, А.Лапо; Пераклад з расейскае Н.Ляўчук. – Менск: Народная асьвета, 1999. – 160 с., іл. – Наклад 1000 ас. ISBN 985-03-0974-1

*Гэты падручнік, перакладзены з расейскае мовы, добра паказвае занядбанасьць нашае навуковае тэрміналёгіі. Дзяцей у школах вучаць русіфікаванай мовы, а ў бібліятэках марнеюць нікому не патрэбныя слоўнікі, дзе добра распрацаваны матэматычныя тэрміны.*

М.Чырык. **Па дарозе на кірмаш**: Паэзія / Прадмова В.Макарэвіча. – Менск: Мастацкая літаратура, 2000. – 95 с. – Наклад 700 ас. ISBN 985-02-0134-7

*Мікола Чырык, заслужаны артыст РБ, вядомы слухачом Беларускага радыё як дыктар, піша таксама вершы. Цана зборнічка – 975 руб.*

**Родны край**: Адрыўны каляндар на 2001 год / Рэдактары-складальнікі В.Балвановіч і В.Кудзіна; Мастак В.Аніськова. – Менск: Беларусь, 2000. – Наклад 60000 ас.

*Ужо цяпер можна набыць усяго за 275 руб. адзіны беларускі адрыўны каляндар на наступны год. Гэтым разам каляндар на першы год III тысячагодзьдзя выйшаў рэкордным накладам, а каштуе на 76 руб. даражэй за выпуск 2000 году.*

В.Якавенка. **Сказ о белорусах**; Дыялёг / Л.Эміліт. **Крыжы й крылы**: Вершы. – Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 56 с. – Наклад 1000 ас. ISBN 985-6318-83-1

*Аўтары, што выступаюць на старонках кнігі, выказваюць – адзін праз публіцыстычныя нататкі, другі ў вершаванай форме – сваю заклапочанасьць лёсам Беларусі: ейнае дзяржаўнасьці, мовы й культуры.*

Я.Купала. **Явар і каліна**: Паэзія каханьня: Для дзяцей сярэдняга й старэйшага школьнага веку / Укладаньне, пасьляслоўе С.Панізьніка; Мастак У.Масьцераў. – Менск: Юнацтва, 2000. – 219 с.; (8) арк. іл. – Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0361-0

*Лірыка каханьня Я.Купалы – у адмысловым зборнічку для школьнікаў. Цана – 700 руб.*

А.Сардаров. **Книга о дорогах**: Дороги в человеческой цивилизации и культуре. – Менск: Арт-дызайн, 2000. – 192 с., іл. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-6589-01-0

*Упершыню ў кнізе дарогі разглядаюцца як фэномэн духоўнае культуры чалавецтва. Пад аднэю вокладкаю сабраны ўнікальныя матар'ялы й творы літаратуры ды мастацтва шматлікіх народаў, прысьвечаныя дарогам. Хоць кніга выйшла ў Менску, беларускім дарогам у ёй прысьвечана ўсяго некалькі слоў, затое вылучаны асобны разьдзел пра дарогі Расеі. Кніга багата ілюстравана каляровымі фатаздымкамі, каштуе 4500 руб.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

## ГАРАДЗЕНСКІЯ ЖЫДЫ Ў ВЫДАНЬНЯХ

За апошні час у Горадні зьявіліся дзьве невялікія кніжкі, прысьвечаныя жыцьцю гарадзенскіх габрэяў.

Адна зь іх, на расейскай мове – "Евреи Гродно" – адкрываецца працаю супрацоўніка музэю гісторыі рэлігіі Сяргея Піваварчыка. Праца распавядае пра наданьне князем Вітаўтам граматы гарадзенскай жыдоўскай абшчыне і пра драматычныя падзеі красавіка 1495 г., калі вялікі князь літоўскі Аляксандар заблытаўся ў сваіх пазыках і, жадаючы пазбавіцца ад жыдоў-крэдытораў, загадаў: «Жидову с земли нашое выбити». Паводле гэтага загаду былі выгнаныя ўсе жыды Вялікага Княства, а іхная маёмасьць часткова перайшла да вялікага князя, а часткова была аддадзена манастырам, установам, духовым і сьвецкім асобам. Прадстаўнікі Гарадзенскае абшчыны ў гэты момант зьяжджаюць у Польшчу. Але гэтае выгнаньне было нядоўгім. Стаўшы польскім каралём, Аляксандар быў зацікаўлены ў разьвіцьці гарадоў, і таму ўжо ў сакавіку 1503 г. дазволіў вярнуцца гарадзенскім жыдам, а праз год – усім астатнім жыдам Вялікага Княства. І ранейшая маёмасьць была вернутая ранейшым валадарам.

У кнізе таксама зьмешчаны аповед Вольгі Сабалеўскай пра гісторыю жыцьця абшчыны ў Расейскай Імпэрыі і артыкул пра жыдоўскага паэта Лява Найдуса, чыё імя ў горадзе носіць невялічкая вулічка і які сваё дзяцінства правёў недалёка ад Горадні, у маёнтку Кусьцін.

Аўтар сусьветна вядомае мовы эспэранта Лазар Замэнгоф у свой час таксама быў жыхаром старажытнае Горадні. Пра яго распавядае Фёдар Ігнатовіч.

Асобнаю кнігаю ў грамадзкім аб'яднаньні «Ратуша» выйшла брашура Вольгі Сабалеўскай «Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гарадзенскіх яўрэяў». Кніга распавядае пра лад жыцьця гарадзенскіх яўрэяў у канцы XVIII – пачатку XX ст.

Гэтыя кнігі можна замовіць у грамадзкім аб'яднаньні «Ратуша» (0152) 44-20-90.

**Андрэй Мялешка**


IREX-PROMEDIA

# Новы страйк прадпрымальнікаў

**Сёньня ў Беларусі 146 тысяч прыватных прадпрымальнікаў. Заўтра замест іх могуць зьявіцца 146 тыс. беспрацоўных.**

З 1 кастрычніка гэтага году пачалі дзейнічаць новыя мытныя правілы, паводле якіх прадпрымальнікі павінны плаціць вялікі падатак за ўвоз у Беларусь з тэрыторыі Расеі тавараў, вырабленых у трэціх краінах. Каб пазьбегнуць штрафу, кожны прадпрымальнік павінен мець каля 12 дакумэнтаў. Але большасьць гандляроў бяруць у Расеі малыя партыі тавараў, а то і ўвогуле адзінкавыя асобнікі. Патрэбных папераў ім проста не даюць – занадта дробныя кліенты. Кантралёры атрымалі загад пачаць з 1 лістапада праверкі на рынках, каб апісваць маёмасьць прадпрымальнікаў ды перадаваць сьпісы мытнікам, якія будуць спаганяць грошы. Большасьць дробных гандляроў патрэбных папераў ня мае, і таму атрымліваецца, што з усіх сваіх тавараў яны павінны плаціць мыта. У мінулую суботу была вялікая аблава на рынку ў Ждановічах, у нядзелю "трэслі" рынак "Дынама". Але пакуль сталічныя прадпрымальнікі трываюць гэты зьдзек, іхныя калегі з рэгіёнаў пачалі змагацца за сваё права спакойна зарабляць грошы. Рэчавыя рынкі Полацку й Наваполацку спусьцелі, стаіць, як паведамляе газэта "Народны прадпрымальнік", Верхнядзьвінск, Глыбокае, Докшыцы, Мёры, часткова Браслаў ды Паставы. Акцыю распачаў Незалежны прафсаюз прыватных прадпрымальнікаў Полацку і Наваполацку. Лісты ўва ўладныя структуры нічога не далі. Апошняе паседжаньне ў Радзе міністраў, на якім разглядалі праблему абкладаньня прадпрымальнікаў падаткамі, увогуле вялося без пратаколу. Пераговы зараз спыненыя, бо ўсе прапановы накіраваныя ў адміністрацыю Лукашэнкі, дзе 11 лістапада адбудзецца адмысловая нарада "па разьвіцьці прадпрымальніцтва". Праўда, ніводнага прыватнага прадпрымальніка на той нарадзе ня будзе, адно акулы беларускага бізнэсу.

Прадпрымальнікі пастанавілі не працаваць цэлы месяц. На 20 лістапада плянуюць усебеларускую аднадзённую акцыю нявыплаты падаткаў. Калі ўлада і тады ня спыніць ператрусаў, абдзіралаўкі ды штрафаў, дык у сьнежні ці студзені прадпрымальнікі пачнуць паўнамаштабны страйк.

**Алесь Кудрыцкі**

рэха падзеяў

# Выбары, якім не пашэнціла

Паўлюк Быкоўскі

Кастрычніцкім выбарам не пашэнціла. Адпачатку ў грамадстве існавала разуменьне, што выбары ў Палату прадстаўнікоў — толькі падрыхтоўка да прызначаных на 2001 г. прэзыдэнцкіх выбараў. Грамадзтва ведала, што абвешчана адна гульня, а адбываецца іншая.

АБСЭ і іншыя міжнародныя пасярэднікі прыклалі значныя намаганьні, каб стварыць умовы дзеля вырашэньня народжаных у лістападзе 1996 г. канстытуцыйных супярэчнасьцяў у Беларусі. У якасьці кампраміснага варыянту яны прапанавалі правесьці вольныя, дэмакратычныя і адкрытыя парлямэнцкія выбары з удзелам абодвух бакоў канфлікту. Меркавалася, што парлямэнт у выніку будзе прызнаны абодвума бакамі і з дапамогай гэтага органа льга будзе паступова вырашыць праблему.

Кіроўны рэжым успрыняў дзеяньні міжнародных пасярэднікаў як умяшальніцтва ўва ўнутраныя справы Беларусі і амаль адкрыта сабатаваў ажыцьцяўленьне прапанаванага варыянта. У сваю чаргу апанэнты Аляксандра Лукашэнкі выставілі чатыры умовы свайго ўдзелу ў выбарах. Гэтыя патрабаваньні, хоць і падтрыманыя АБСЭ, *a priori* не маглі быць выкананыя кіроўным рэжымам, паколькі сярод іх было патрабаваньне пашырыць парлямэнцкія паўнамоцтвы.

У выніку гэтым парлямэнцкім выбарам не пашэнціла. Яны пазбавіліся ня толькі прыдуманага ім эўрапейскімі структурамі звышсэнсу (вырашэньне канстытуцыйных супярэчнасьцяў), але й нармальнага сэнсу парлямэнцкіх выбараў, калі прадстаўнікі розных палітычных сілаў змагаюцца за права фармаваць дзяржаўную палітыку ці хаця б уплываць на яе. З 97 абраных дэпутатаў толькі 16 уваходзяць у партыі, прычым у асноўным прадстаўляюць неіснуючыя палітычныя сілы (*de jure* — партыя, а *de facto* – прыстасаваньне, каб прасьцей абраць таго ці іншага прадпрымальніка).

Цяпер да высноваў.

Ведаючы пра выкарыстаны ўладамі адміністрацыйны рэсурс, немагчыма расцэньваць выбары як сьведчаньне шырокай падтрымкі насельніцтвам абранага кіроўным рэжымам курсу — наадварот, гэткае сьцьверджаньне трэба паставіць пад пэўны сумнеў.

Ведаючы пра неразборлівасьць у сродках большасьці абраных на гэтых выбарах дэпутатаў, няцяжка ўявіць, каму будуць карысныя законы, якія яны прымуць, і для каго там будуць пакінутыя прагалы.

Ведаючы пра неабходнасьць пераходу абранага дэпутата ў трохмесячны тэрмін да працы ў парлямэнце на прафэсійнай аснове, застаецца шкадаваць, што папулярныя пэдагогі, дактары і супрацоўнікі праваахоўных органаў адмовяцца ад працы па асноўнай спэцыяльнасьці — яны вырашылі перакваліфікавацца ў палітыкаў і з дапамогай уладаў зрабілі гэта.

анонс

# "Беларускі час"

На першай паласе новага нумару прафсаюзнай газэты "Беларускі час" — гісторыя змаганьня аднаго берасьцейца супраць ЖЭСу-трыбушыльніка на тле неверагоднага падвышэньня коштаў на жыльлёва-камунальныя паслугі. У разьдзеле "Інфармацыя" "БЧ" тлумачыць, чаму прадпрымальнікі да настаўнікі гатовыя страйкаваць, На трэцяй паласе – сцэнар шоў-балету "Нешта парлямэнтападобнае", артыкул пра махінацыі на беларускім тэлебачаньні ды камэнтары экспэртаў адносна мінулых выбараў. Пад шапкай "Ракурс" – развагі пра катастрафічныя "посьпехі" беларускай эканомікі, напісаныя па сьлядох візітаў Лукашэнкі ў Сочы ды на Кубу. А з наступнага тыдня газэта пачынае выходзіць не на 8 старонках, як раней, а на 12-ці.

**А.К.**

дзе варта быць

## Дні японскае культуры

У лістападзе ў Беларусі ладзяць дні японскае культуры. У праграме — выстава японскай традыцыйнай лялькі, а таксама паказы фільмаў. Гэтыя лялькі вельмі складаныя ды дужа дарагія. Ня кожная японская сям'я можа дазволіць сабе набываць іх. Выстава «Лялькі Японіі» пройдзе з 14 да 22 лістапада ў Менску (у Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, што на Захарава), а з 27 лістапада да 10 сьнежня — у Магілёўскім краязнаўчым музэі. З 15 да 21 лістапада ў менскім Палацы вэтэранаў пройдзе паказ японскага кіно. З 27 лістапада гэтыя ж фільмы будуць дэманстравацца ў Магілёве.

## Новае нямецкае кіно

Нямецкі культурны цэнтар ладзіць да 10 лістапада кінапаказ «Новае нямецкае кіно». Усе фільмы йдуць у менскім кінатэатры «Піянэр» (вул. Энгельса, 20). 8 лістапада — «Хутка і бяз болю» (1998, Фаціх Акін), 9-га — «Ясімін» (1988, рэжысэр Гарк Бом, фэдэральная прэмія «Залатая стужка» 1987), 9-га — «Позьняе шоў» (1999, Гельмут Дытль).

## Журбей і Шпунт

У Нацыянальным мастацкім музэі экспануецца выстава «Рэстаўрацыя і рэстаўратары», прысьвечаная 30-годзьдзю творчай дзейнасьці знакамітых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта, якія фармавалі нацыянальную рэстаўрацыйную школу. Яны адрэстаўравалі фрэскавы жывапіс у Пінску, Магілёве і Менску, а ў 1998—2000 г. аднавілі абразы Маці Божай Адзігітрыі Менскай, Апостала Пётры і Апостала Паўла з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музэю, а таксама аднавілі манумэнтальны жывапіс Пінскага францішканскага манастыра XVIII ст. Выстава працягнецца да 6 сьнежня.

**Алесь Кудрыцкі**

## Пружана

У музэі-сядзібе "Пружанскі палацык", што ў Пружане, з 5 лістапада да 10 сьнежня ладзіцца выстава Мікалая Чурабы "Ніводнага дня без эскізу". Тут можна пабачыць ягоныя лепшыя творы з жывапісу й графікі. Мікалай Чураба памёр у 1998 г., гэтая выстава – першая па ягонай сьмерці.

**Ю.Зялевіч**

спорт

# Пэнальці зь серабрыста-бронзавым адлівам

За срэбра нацыянальнага футбольнага чэмпіянату да самага канца ішла барацьба паміж менскімі дынамаўцамі ды леташнімі чэмпіёнамі з барысаўскага БАТЭ. За чатыры туры да фінішу менчукі апярэджвалі гульцоў зь берагоў Бярэзіны аж на 6 ачкоў. Але ў асабістым паядынку ў Барысаве гаспадары адкалашмацілі гасьцей - 3:1, удвая скараціўшы сваё адставаньне. Дружына Юр'я Пунтуса, які ўжо прывучыў нас да перамогаў моладзевай зборнай, адчула пах бела-блакітнай крыві колішняга флагмана. Па-сапраўднаму пусьціць гэтую кроў мог у наступным, 28-ым туры віцебскі «Лякаматыў», аднак неверагодным чынам "Дынама" ўратавалася на апошніх хвілінах, вырваўшы на сваім полі нічыю 2:2. А БАТЭ, ведама ж, выйграў, але ад салідная перавагі хлопцаў Паўла Раднёнка засталося ўсяго толькі адно ачко...

Перадапошні тур зьвёў «Дынама» ды БАТЭ з аўтсайдэрамі — слонімскім «Камунальнікам» ды магілёўскім «Тарпэда-Кадзіна». Барысаўцы дома без асаблівых праблемаў забіваюць 4 «сухія» галы ў браму бедных гасьцей, а вось «Дынама» ў Слоніме ледзь перамагае «камунальнікаў», дзякуючы адзінаму ў гульні голу *з пэнальці*...

4 лістапада. Апошні тур. Лёс срэбра вырашаецца ў Менску. На «Дынама» гаспадары прымаюць чэмпіёнаў з Мазыра, якія проста кроў з носу хочуць узяць рэванш за хатнюю паразу ў першым коле першынства. Барысаўцы на «Тарпэда» змагаюцца супроць «мазаўцаў». Пасьля першага тайму на «Дынама» — 0:0, і тут на галоўную арэну краіны прыходзіць навіна, што БАТЭ на апошніх хвілінах першага тайму *з пэнальці* забіў гол ды вядзе ў ліку 1:0. Стала ясна — госьці тарпэдаўцаў наўрад ці аддадуць вікторыю (так урэшце і сталася), а «дынамаўцам» трэба абавязкова перамагаць. Аднак «Славія» мела свае пляны — двойчы прайграўшы менчукам з «Дынама», можна было б паставіць пад сумнеў справядлівасьць свайго чэмпіёнскага тытулу. Таму «Славія» настойліва шукала посьпеху ля брамы Юр'я Афанасенкі. І нарэшце дамаглася свайго. Зрэшты, ці былі рэальныя падставы для прызначэньня *пэнальці*, ці не, сказаць цяжка, але сп.Дайлід з выцягнутай рукой ды распаленым сьвісткам у роце кінуўся ў бок адзінаццацімэтровай адзнакі. Праўда, адразу ж бразнуўся вобземлю, чым крыху падсаладзіў горыч некалькіх тысяч прыхільнікаў менскай каманды. Раман Васілюк ударам з кропкі паставіў на срэбных надзеях «Дынама» вялікі ды тлусты пытальнік. Падумалася, што менчукі зараз «папруць» ды адыграюцца, але, на дзіва, гэтага ня здарылася. Па сутнасьці, толькі пад канец гульні мяч могтакі завітаць у мазырскую браму, аднак замест гэтага пацалаваўся са штангай. А вось футбалісты з Палесься яшчэ як мінімум двойчы маглі страсянуць сетку за сьпінай Афанасенкі. Але лічба на старым дынамаўскім табло засталася нязьменнымі — 0:1 — рэванш гасьцей, другое месца БАТЭ ды бронзавы фініш менскага «Дынама».

У наступным сэзоне у вышэйшым дывізіёне замест 16 будуць гуляць 14 камандаў. З эліты вылецелі «Ліда», слонімскі «Камунальнік» ды магілёўскае «Тарпэда». Адзіны квіток наверх атрымала каманда Людаса Румбуціса - ФК «Маладэчна».

**Багдан Арлоў**

БТ вачыма беларуса

# БТ пасьля рэвалюцыі

З 8 лістапада ў чарговы раз абновіцца выгляд праграм й адзінага беларускага тэлеканалу. З новых праграмаў павагу авансам выклікае толькі "Вечаровы экспрэс", музычна-інфармацыйна-забаўляльны праект каманды зачыненага "Абібока" з удзелам ды-джэя "Радыё Рокс" Тацяны Сулімавай ды Лявона Вольскага. Культурныя навіны мае асьвятляць праграма "Плянэта Арт". "Сустрэчы ў Траецкім" будуць прадстаўляць "людзей мастацтва й культуры". "Будні" ды "Адысэя каманды Кухто" выходзіць будуць. Застаюцца і дагэтуляшнія каралеўскія паляваньні, зорныя ростані ды тайныя спружыны палітыкі. Хіба што ў першы ж тыдзень абяцаюць ажно тры добрыя фільмы – чэскі "Коля", гішпанскі "Небясьпека каханьня" ды югаслаўскі "Чорная котка, белы кот". І ўсё па-расейску...

Нашыя праграмы пачынаюць весьці расейскія вядучыя (акторка Якаўлева ў праграме "Вялікі сьняданак"). Нацыянальны канал застаецца глыбока "рэспубліканскім".

**Арцём Лук'яновіч**

# Садок застаўся бязь нянькі

Створаная нядаўна беларускамоўная група ў дзіцячым садку №413 на вул. Багдановіча ў Менску засталася бязь нянькі. Ад 3 лістапада дзетак няма каму даглядаць.

Праца нянькі доўжыцца ад 8 да 17 гадзіны зь перапынкам ад 13 да 15. Заробак — 22 тыс. руб. Калі хто хоча наняцца, званіце на тэлефон 251-95-90 — вам падрабязней распавядуць пра ўмовы й характар працы.

**Віктар Мухін**

# Сабачыя гісторыі



IREX-PROMEDIA

## Віктар Шніп

Да аднаго сабакі прыйшоў Грахдан, пераапрануты ў Пушкіна, і сказаў: "Давеча я выкушал трі чашкі какавы і без усякага ўкусу. Можа, у вас ёсьць сто грам на прапітаньне?"

Да аднаго сабакі прыйшоў Граждан, пераапрануты ў Анатоля Сыса, і сказаў: "Я сын Янкі Купалы і ўнук Максіма Багдановіча. Падайце Хрыста радзі..."

Адзін сабака пераапрануўся ў Людмілу Рублеўскую і прыйшоў да Граждана. Граждан пайшоў у другі пакой і выйшаў адтуль пераапрануты ў Шніпа.

Адзін сабака пераапрануўся ў Мыйдадзіра і пайшоў да Граждана. Убачыў Мыйдадзіра Граждан і сказаў: "Сёньня нядзеля, трэ будзе памыцца..."

Адзін сабака распрануўся. Граждан Гражданом.

Адзін сабака пераапрануўся ў Някляева і паехаў у Польшчу. А там сядзіць Някляеў, пераапрануты ў Граждана.

Адзін сабака пераапрануўся ў Пазьняка. Прыйшоў да Граждана і запытаўся: "Дзе ты быў, калі я галадаў у Амэрыцы?"

Адзін сабака пераапрануўся ў Леніна. Зьбегліся Гражданы зь віламі і лапатамі і скінулі з трактара старшыню калгасу.

Адзін сабака пераапрануўся ў Якуба Коласа. Ідзе па вуліцы, і ўсе зь ім вітаюцца: "Дзень добры, дзядзька Колас!" І тут ехаў Граждан на ровары, заглядзеўся на пераапранутага сабаку і трапіў пад трамвай.

Адзін сабака пераапрануўся ў Анатоля Сыса. Выпіў паўлітра "чарніла" і пайшоў у Дом літаратара. А там на вахце сядзеў Граждан, якому было ўсё роўна, у каго пераапрануўся сабака. І сказаў Граждан сабаку: "Ты хоць у Петруся Броўку пераапраніся, а цябе, сабачая морда, я ўсё роўна не пушчу ў Бум-Бам-Літ!"

Да аднаго сабакі прыйшоў Граждан, пераапрануты ў першага беларускага Нобэлеўскага ляўрэата. І закрычаў сабака: "Як мне абрыдзелі гэтыя пэрформансы! Хачу на пэнсію!"

У аднаго сабакі жыў Граждан, пераапрануты ў Шніпа. Прыйшлі міліцыянты і сказалі: "Дзядзька Віця, мы ведаем, што ня вы разваліліі Савецкі Саюз, таму можаце спаць спакойна. А з Гражданом мы разьбяромся!", і пайшлі шукаць Граждана.

Адзін сабака пераапрануўся ў філёзафа. Зьбегліся Гражданы з тазікамі і аб'явілі сябе Шапэнгаўэрамі.

Адзін сабака жыў пераапранутым у Ведзьмака Лысагорскага. А Граждан у каго толькі ні пераапранаўся, а ўсё роўна хадзіў галодны.

### АД ГРАЖДАНОЎ

Калі Гражданы адкапалі Рагнеду, Сабака думаў: "Навошта займацца эксгумацыяй, калі вакол столькі прыгожых дзяўчат?"

Адзінае, што падабалася Сабаку ў газэтах — іхныя назвы. Напрыклад, "Савецкую Беларусію" чытаў бы і чытаў.

Калі Сабака даведаўся пра Астанкінскую тэлевежу, ён зьдзіўлена глядзеў у тэлевізар на дыктараў. Якія ж героі: глядзяць у камэру, а самі гараць!

**Вангор Вушацкі, Маладэчна**

Сабака цэлы дзень махаў кавадлам і ніколі ня жаліўся на стомленасьць, а Граждан, паляпаўшы языком пяць хвілін, "выламжыўся ўвесь".

**Юрась Галодны, Менск**

Адзін Шніп друкаваў "Сабачыя гісторыі". А ўсе Гражданы яму зайздросьцілі ды таксама пісалі ў "Нашу Ніву".

Адзін сабака трапіў у гісторыю. Таму яму адразу далі грамадзянства саюзнае дзяржавы.

Адна грамадзянка Наста заклікала Шніпа бараніць ягонага сабаку. А сабака хацеў абараняцца сам.

**Зьміцер Каляградзкі, Менск**



## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Зьмітра Мудрэнку** віншую з нараджэньнем другога сына. Так трымаць! Лідчук

**Зьмітра Салошкіна віншую са шлюбам!** Трымайся! Лідчук

**гурток падрыхтоўкі да школы**

**Запрашаем дзяцей 4—5 гадоў у гурток падрыхтоўкі да школы.** Колькасьць вакансіяў абмежаваная. Падавайце свае каардынаты на т.: 284-85-11

**ідэі**

**Сп. Намызьнік!** "Сабачыя гісторыі" — гэта не лайно, гэта — літаратура. Чытайце Э.Ёнэска. Натальля

**Самыя значныя** падзеі адбываюцца на мяжы вякоў. Мая Падзея — ты. Р.А.

**Мы вялікая нацыя!** Адбудуем Вялікую дзяржаву!!!

**А слабая цывілізацыя** ў нас таму, што наш народ не прыкладаў да будовы яе сваёй рукі, што яна нічым не зьвязана зь яго душой. "НН", 1910

**"Гэты натоўп** ужо не натоўп: ён — народ. Я паглыблены ў гармідар разгрому, і ўсё-ткі я адчуваю сябе пераможцам". Мы — народ, мы — пераможам! Дэ Сэнт-Экзюпэры і Aleks

**Lićviny,** pišecie na svajoj Lićvincy j ruščie u Europu. Беларусы, беларуская мова больш руская, чымсьці расейска-маскоўская!

**Паведамляем,** што нашыя імёны ў газэце "Радавая Беларусь" друкуюцца бяз нашае на тое згоды. Алесь Карніенка, Віктар Мухін, Аўгіньня Парашчанка, Максім Кашынскі, Тацяна Папова

КГБ, Дзяржкамдрук і Адміністрацыя Прэзыдэнта Беларускай Народнай Рэспублікі паведамляюць пра спыненьне фінансаваньня газэты "**Радавая Беларусь**"

**інструкцыя**

**Гітарыст гурта DEEP PURPLE Стыві Морс** шукае англамоўную інструкцыю па эксплюатацыі трактара "Беларусь". Саму інструкцыю ці ўмовы высылкі трэба слаць на адрас fanmail@stevemorse.com

**кантакты**

**Шукаем карэспандэнтаў на Гарадзеншчыне**. Зьвяртацца: 230003, Горадня, а/с 110, e-mail: bunt.hrodna@usa.net

**кнігі, музыка**

**Прадаю кнігі** па народным мастацтве, літаратуразнаўстве, гісторыі і на іншыя тэмы. Вышлю каталёг на замову. Тэлефануйце: 272-81-98, або лістуйце: 220116, Менск, а/с 272.

**Прадам Біблію** на францускай мове 1923 г. выданьня. Т.: (02251) 2-37-87

**Беларускую Біблію, Эвангельле, духоўную літаратуру** куплю. Т.: 226-42-63

**Куплю літаратуру па геральдыцы**. Т.: (029) 676-33-69, Андрэй

**"Археалягічныя адкрыцьці сьвету", "Кроніка Белай Русі", Беларускі Гістарычны Агляд, "Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі"** (1, 2, 4, 5 т.), аўдыё-, відэакасэты, CD, выцінанкі шукайце на выставе (Румянцава 13), 11.00—19.00, апроч выходных

**курткі**

**Танна прадаю 3 дзіцячыя курткі**, футра на дзіцёнка 6–9 гадоў б/у, расейска-польскі размоўнік, расейска-чэскі слоўнік. Т.: 251-30-15, Мікола

**мадэм**

**Прадам мадэм "MOTOROLA" 56k (int.)** Т.: 236-32-89, Лявон

**музыка, відэа**

**Выстава беларускай аўдыёвідэапрадукцыі і кніг у Горадні** працуе штопанядзелка і серады з 17 да 20 гадзін па адрасе: вул.К.Маркса 11 (другі паверх)

**net**

**Адзіны традыцыяналісцкі нэапаганскі форум у беларускім сеціве** "Сьвятая Дуброва" запрашае ўсіх цікаўных браць удзел у абмеркаваньнях: www.dubrova.cjb.net

**пасьведчаньне**

**Страчанае пасьведчаньне інваліда 08 №0095516** на імя Хазяніна Кірыла Міхайлавіча лічыць несапраўдным

**праца**

**Дызайн-студыі патрабуецца маладая камунікабэльная асоба** на пасаду мэнэджэра зь веданьнем паліграфіі. Т.: (017) 254-73-68, Зьміцер

**Дапамагу пачаць свой бізнэс у хаце** (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Даступна! Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Запрашаю да супрацоўніцтва актыўных людзей** у новым бізнэс-праекце. Ад Вас капэрта са зв/а. 213827, Бабруйск-27, а/с 63

**тэлефон**

Куплю тэлефон "Бэнэфон твін". **Т.: (029) 676-33-69, Андрэй**









**На мінулым тыдні на заклік падпісаць сябра азваліся спадары Aleks зь Менску, Андрэй Сідорык, Віталь Цыганкоў зь Менску і спадар, які не пажадаў называць свайго імя ў газэце. Дзякуем!**

## паштовая скрынка

**Зьмітру М. зь Менску.** Замнога памылак у тым, што вы пішаце.

**Андрэю М. з Горадні.** Апавядаць пра прыезд сп.Высоцкага суцэльна ў кантэксьце барацьбы з РНЕ, гэта значыць найперш рэклямаваць гэтую арганізацыю. Гэныя толькі й гоняцца за рэклямай, а гэтыя толькі й давай пісаць, дзе каму РНЕшнікі ў морду далі. Зводзіць нацыянальна-вызвольную барацьбу да змаганьня з РНЕ – значыць адступаць на тую самую каламутную пэрыфэрыю грамадзкага жыцьця, у якой круцяцца яны і дзе яны як рыба ў вадзе.

**Яўгеніі Ш. зь Менску.** Маладая літаратура не ствараецца па рашэньні Саюзу Пісьменьнікаў. Большасьць тых маладых аўтараў, пра якіх пішаце вы, не "імкнуцца да асьвятленьня жыцьцёвых зьяваў у літаратуры", унікаюць драматычных момантаў сучаснасьці, баязьліва перапяваюць старэйшых, не рашаючыся выйсьці за межы традыцыйнай эстэтыкі і нарматыўных слоўнікаў. А тое, што Вы ўхвальваеце аднычасова паэтаў, якія палохаюцца любых фармальных пошукаў, і паэтаў, якія абсалютызуюць фармальныя пошукі, выклікае сумненьні ў Вашай шчырасьці.

**Ігару Д. з Магілёва.** Мапы павесім у рэдакцыі.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| сакратарка рэдакцыі | Аляксандра Макавік |
| стыльрэдактар | Мікола Рамаоўскі |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: niva@user.unibel.by
http://members.nbci.com/nasa_niva/**



6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Наклад 3582.

Нумар падпісаны ў друк 08.11.2000.

Замова № 5840.

Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Залатая Горка, 7/9